ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№9 (90)
верасень 2018 год

CATHOLICNEWS.BY

# Папа Францішак у Аглоне: “Не будзем баяцца адчуць моц пяшчоты”



Стар. 2-3

# Папа ў Аглоне:




**Папа Францішак З 22 па 25 верасня наведаў краіны Балтыі: Літву, Латвію і Эстонію.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык,** *фота*

## У гонар стагоддзя незалежнасці

Візіт Пантыфіка быў прымеркаваны да стогадовага юбілею атрымання незалежнасці ў гэтых краінах.

Гэта было 23-е падарожжа Святога Айца за межы Італіі.

Папа Францішак сустракаўся з кіраўнікамі дзяржаваў і прадстаўнікамі грамадскасці, а таксама ўзначаліў святыя Імшы ў Каўнасе, Аглоне і Таліне.

У Літву Папа прыляцеў у суботу 22 верасня. Пасля афіцыйнай цырымоніі прывітання ў аэрапорце, Святы Айцец сустрэўся з вышэйшым кіраўніцтвам Літоўскай Рэспублікі. У гэты ж дзень Пантыфік сустрэўся з моладдзю, духавенствам, а таксама памаліўся каля абраза Маці Божай Вастрабрамскай.

У нядзелю, 23 верасня, Папа наведаў Каўнас, другі па велічыні горад Літвы. Там ён цэлебраваў святую Імшу ў парку Сантакос, дзе сабралася каля 100 тысяч чалавек, сярод якіх было больш за 800 святароў.

У гэты ж дзень, па вяртанні ў Вільню, Пантыфік наведаў Музей акупацыі і Свабоды, дзе азнаёміўся з яго экспазіцыяй.

Панядзелак 24 верасня быў прысвечаны Латвіі. Папа сустрэўся з кіраўніцтвам Латвійскай Рэспублікі, усклаў кветкі да Манумента Свабоды, правёў экуменічную сустрэчу, а таксама наведаў лютэранскі сабор святога Якуба.

У другой палове дня Папа вылецеў у Аглону, дзе знаходзіцца адзіная ў Латвіі малая базіліка Маці Божай. Там прывітаць Папу сабралася каля 35 тысяч вернікаў, у тым ліку і больш за тысячу пілігрымаў з Віцебскай дыяцэзіі.

У апошні дзень свайго падарожжа, у аўторак 25 верасня, Папа наведаў Эстонію. Там ён сустрэўся з кіраўніцтвам Эстоніі, правёў экуменічную сустрэчу з моладдзю, сустрэўся з беднымі людзьмі, якім дапамагае Касцёл, а таксама цэлебраваў святую Імшу ў Таліне.

## Другі ў гісторыі візіт Пантыфіка

Каб прывітаць Папу, у балтыйскія краіны накіравалася шмат пілігрымаў з Беларусі. З нашай дыяцэзіі найбольш пілігрымаў накіраваліся ў панядзелак у Аглону, вёску на ўсходзе Латвіі.

Дык чаму ж менавіта Аглону выбраў Папа для наведвання ў Латвіі?

Аглона па памерах параўнальная з Будславам, яе насельніцтва крыху меншае за тысячу чалавек. Але нягледзячы на невялікія памеры, Аглона мае багатую гісторыю. Калі верыць легендзе, менавіта ў Аглоне знаходзіцца магіла першага і адзінага караля Літвы Міндоўга.

Культ Маці Божай трывае на гэтых землях яшчэ з XIII стагоддзя. У 1699 годзе ў Аглону прыбылі манахі дамінікане, якія пабудавалі тут драўляную святыню і кляштар.

У 1768–1789 гадах замест драўлянай святыні быў пабудаваны храм з цэглы ў стылі барока, у галоўным алтары якога быў змешчаны абраз Маці Божай, які быў напісаны ў XVII стагоддзі невядомым мастаком. Гэты абраз амаль адразу стаў славіцца як цудадзейны і ўжо тады ў Аглону накіроўвалася шмат пілігрымаў.

Падчас Другой сусветнай вайны, у 1944 годзе, пры набліжэнні фронту мясцовы святар зняў абраз Маці Божай і схаваў яго ў надзейным месцы. Праз некаторы час ён зноў быў змешчаны ў алтары храма.

Яшчэ ў савецкі час, у 1980 годзе, калі святкаваўся двухсотгадовы юбілей храма, Папа Ян Павел II надаў яму статус малой базілікі.

А ўжо ў першыя гады незалежнасці Латвіі, 9 верасня 1993 года, Святы Айцец асабіста наведаў святыню, дзе прывітаць яго сабралася больш за 380 тысяч вернікаў.

Штогод на свята Унебаўшэсця Маці Божай, якое адзначаецца 15 жніўня, Аглону наведваюць дзясяткі тысячаў пілігрымаў не толькі з Латвіі, але і з суседніх краінаў.









# “Не будзем баяцца адчуць моц пяшчоты”

Сёлетні візіт Пантыфіка быў ужо другі ў гісторыі гэтага месца. Трэба заўважыць, што гісторыя Аглоны і яе святыні шмат у чым нагадвае гісторыю нашага Будслава. Праўда, на жаль, у Будслаў яшчэ ні разу не прыязджаў Святы Айцец.

### Урачыстая сустрэча

У Аглону Святы Айцец прыляцеў каля чатырох гадзін дня. Верталёт зрабіў некалькі кругоў над плошчай перад храмам, дзе вернікі віталі свайго Папу. Было бачна, як Пантыфік таксама махаў рукой у знак прывітання сабраным пілігрымам.

Пасля гэтага высокага госця сустрэлі на верталётнай пляцоўцы прадстаўнікі духавенства і кіраўніцтва краіны. Потым Папа Францішак накіраваўся на папамабілі па адмыслова зробленых дарожках, каб павітаць вернікаў. Людзі таксама з вялікай радасцю віталі святога Айца. Шмат хто здымаў гэта на мабільныя тэлефоны.

Нават надвор'е спрыяла гэтаму ўрачыстаму моманту. Перад прылётам Папы церушыў дробны дождж, а вось падчас прывітання ён супакоіўся і нават выглянула сонца.

– Хмары разышліся чорнымі кулісамі, ззаду за намі заззяла сонца, і тады з-за светлага касцёла вылецеў верталёцік, - так выказаўся пра гэта Антон Бубала, які прыехаў на сустрэчу са Святым Айцом з Верхнядзвінска.

Трэба адзначыць, што ў сувязі з візітам Папы, перад вернікамі была выстаўлена не копія абраза Маці Божай як звычайна, а арыгінальная выява Багародзіцы. Апошні раз гэта было амаль сто гадоў таму, у 1920 годзе – годзе, калі Латвія ўпершыню здабыла незалежнасць.

### Хай Марыя будзе прыкладам

Пасля ўрачыстай сустрэчы распачалася святая Імша, якую ўзначаліў Папа Францішак. У сваім слове да вернікаў ён спаслаўся на дэвіз свайго падарожжа ў Латвію: “Пакажы нам сваю Маці”.

Пантыфік звярнуў увагу, што ў Евангеллі паводле св. Яна Марыя з'яўляецца ў дзвюх сітуацыях: на вяселлі ў Кане і пад крыжам свайго Сына Езуса.

Папа адзначыў, што Марыя паказвае сябе ў першую чаргу побач з тымі, хто церпіць, ад каго адварочваюцца ўсе людзі, яна побач з тымі, каго судзяць, каго дэпартуюць:

“Яна не толькі з тымі, хто падвяргаецца прыгнёту ці эксплуатацыі, але і з тымі, хто знаходзіцца “па-за сістэмай”, на ўзбочыне грамадства. З імі ёсць таксама Маці, прыбітая да крыжа неразумення і пакут”.

“Таксама і мы пакліканы “дакрануцца” да пакут іншых. Выйдзем насустрач нашаму народу, каб суцяшаць і суправаджаць яго. Не будзем баяцца адчуць моц пяшчоты і ўвайсці ў канкрэтнае жыццё іншых”, — заклікаў Святы Айцец.

> **“Перад самым яго прылётам хмары разышліся і выглянула сонца. Ці ж гэта не цуд, што Бог учыніў для нас?!”**

Паводле Папы Францішка, недастаткова знаходзіцца побач з іншым чалавекам, каб адчуць яго боль і зразумець: “Колькі сужонкаў маглі б распавесці гісторыю таго, як яны былі блізкімі, але не разам; колькі маладых людзей адчуваюць больш гэтай аддаленасці ад дарослых; колькі пажылых людзей адчуваюць халодны дагляд, але не адчуваюць, што аб іх клапоцяцца і прымаюць з любоўю”.

Таму, па словах Папы, у розных складаных жыццёвых сітуацыях нам трэба браць прыклад з Божай Маці, якая была разам са сваім Сынам і ў радасныя моманты, калі Ён учыніў першы цуд на вяселлі ў Кане Галілейскай, і ў самыя цяжкія хвіліны, калі Езус паміраў на крыжы, а ўсе Яго вучні разбегліся.

Напрыканцы гаміліі Папа заклікаў вернікаў быць сапраўднымі, а не фанатычнымі хрысціянамі.

### Высокая арганізацыя візіта

Напрыканцы Імшы Папа выказаў падзяку усім тым, хто спрычыніўся да арганізацыі яго візіту ў Латвію, а таксама асабіста падзякаваў прэзідэнту Раймандсу Веёнісу, які разам з жонкай прысутнічаў на богаслужэнні.

У якасці воты Папа Францішак прымацаваў да абраза свой ружанец.

Антон Бубала заўважыў яшчэ адзін цуд, звязаны з візітам Папы: “Калі Папа прамаўляў апошнія словы на развітанне, паміж двух вежаў узнік вялікі жураўліны клін. Журавы праляцелі над нашымі галовамі. Клін быў стройны, але з адной лакунай на месцы, дзе мусіў быць яшчэ адзін жураўлік”.

Калі верталёт з Папам ужо падняўся ў паветра, ён зрабіў некалькі кругоў над Аглонай на развітанне з вернікамі.

А людзі дзяліліся адзін з адным уражаннямі ад сустрэчы са Святым Айцом. “Калі Папа наблізіўся да нас, мяне ад хвалявання нават дрыжыкі прабралі,” – гаварыла адна дзяўчына. Іншая заўважыла, што прырода і тая спрыяла візіту высокага госця. “Перад самым яго прылётам хмары разышліся і выглянула сонца. Ці ж гэта не цуд, што Бог учыніў для нас?!” – гаварыла яшчэ адна жанчына.

“Я меў магчымасць другі раз у жыцці быць блізка ад Папы Францішка. Першы раз гэта было ў Рыме, на плошчы Святога Пятра, – падзяліўся ўражаннямі ксёндз Мікалай Ціхановіч, пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім, – І кожны раз, калі Папа блізка мяне праходзіў, сэрца, здавалася, аж выскоквала з грудзей”.

Усе адзначалі высокую арганізацыю візіту Пантыфіка. Усё было прадумана, нават была бясплатная мінеральная вада ў сектарах з вернікамі. Таксама людзі адзначалі тую ветлівасць і павагу, якую праяўляла паліцыя да вернікаў.

Шмат хто з беларускіх пілігрымаў задаваўся пытаннем: а ці хутка прыедзе Папа ў Беларусь? І большасць з сумам канстатавала, што ў бліжэйшы час, хутчэй за ўсё, гэта не адбудзецца.

Але для Бога няма нічога немагчымага, таму будзем маліцца і спадзявацца.



# Беларуская моладзь на сустрэчы з Папам

**Папа Францішак 22 верасня распачаў свой візіт па краінах Балтыі. Некалькі аўтобусаў з беларускай моладдзю адправіліся на сустрэчу з Пантыфікам у Літву.**

**Ірына Апяцёнак**, *тэкст;* **Дзмітрый Рынейскі**, *фота*

Па прыездзе ў Вільню адбылася св. Імша для пілігрымаў на беларускай мове, якую цэлебраваў мітрапаліт Мінска-Магілеўскай архідыяцэзіі Тадэвуш Кандрусевіч. Пасля Імшы ўсіх чакаў смачны абед.

Падсілкаваўшыся, пілігрымы адправіліся на плошчу каля катэдральнага касцёла, дзе ўжо дзясяткі тысяч чалавек з розных краінаў чакалі сустрэчы з Папам. Падчас чакання было праведзена некалькі малітваў на іншых мовах, маладыя людзі казалі сведчанні, знакамітыя спевакі выступалі на сцэне.

Свой шлях да моладзі Папа распачаў з наведвання Вострай Брамы, пасля адведаў хворых. Ён праехаў паміж паломнікамі на папамабілі, вітаючы і благаслаўляючы іх. Эмоцыі, якія нельга перадаць словамі, можна было ўбачыць на тварах моладзі, бо Францішак знаходзіўся побач.

Па прыездзе Святы Айцец звярнуўся з прамовай да моладзі. Сваёй прысутнасцю Пантыфік узрадаваў юнакоў і дзяўчат, з якімі правёў амаль гадзіну. За гэты час двое маладых людзей падзяліліся сведчаннямі, з танцамі і песнямі выступалі артысты. Пад канец візіту біскуп з Вільні падарыў Папу Францішку келіх.



# Спатканне святароў прайшло ў Верхнядзвінску

**11 верасня ў касцёле Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Верхнядзвінску пасля летняга адпачынку святары і манахіні з Віцебскай дыяцэзіі зноў сабраліся, каб разам з біскупам Алегам Буткевічам памаліцца і вырашыць надзённыя справы і пытанні.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*



Па традыцыі сустрэча распачалася малітвай з Літургіі гадзін і асабістай адарацыяй у цішыні перад Езусам Эўхарыстычным. Святую Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

"Вітаю ўсіх вас, дарагія браты ў святарстве, сёстры законныя, і дзякуй за вашу прысутнасць! Дзякуй за гэты час, які правялі разам з дзецьмі і моладдзю. Гэта вельмі патрэбная рэч, каб будаваць нашыя парафіяльныя супольнасці, каб будаваць у сэрцах маладых людзей Божае Валадарства", – адзначыў на пачатку іерарх. Біскуп Алег шчыра прывітаў у дыяцэзіяльнай супольнасці кс. Віталя Бяленіка, які паходзіць з Гродна і пажадаў несці служэнне на Віцебшчыне.

У гаміліі біскуп Алег падкрэсліў, што пачатак новага навучальнага года – гэта новы перыяд у душпастырскай дзейнасці. Іерарх звярнуў увагу на тэму паклікання: "Спачатку Езус кліча дванаццаць чалавек. Але на працягу двух тысячагоддзяў гэты спіс няспынна павялічваецца. Кожнага з нас Бог кліча па імені. Варта ўсвядоміць сабе тую годнасць, да якой Бог нас паклікаў".

Біскуп Буткевіч падзяліўся адным выказваннем, якое нядаўна прачытаў. А менавіта цытатай скарбніка з Апостальскай Сталіцы біскупа Конрада Краеўскага: "Святара можна замяніць ва ўсім, акрамя дзвюх рэчаў: канфесіянала і алтара". Шмат заданняў у Касцёле можа выконваць свецкі чалавек, але нельга замяніць святара, калі ёсць патрэба прабачыць грэх і неабходнасць скласці Найсвяцейшую Ахвяру. Ардынарый запрасіў паразважаць над гэтым выказваннем і заклікаў аднаўляцца думкамі, розумам і сэрцам, бо "тое, што робім, павінна прыносіць плён".

Пасля Літургіі адбылася канферэнцыя, якую прамовіў кс. Адам Дынак, віцэ-рэктар Пінскай духоўнай семінарыі. Святар паразважаў над аўтэнтычнасцю святарскага жыцця. Ксёндз-канонік прысутным для разважання даў тры кірункі: як павінна быць? як не павінна быць? і як магло б быць?

З навінамі і найбліжэйшымі анонсамі ў дыяцэзіі прысутных пазнаёміў канцлер курыі кс. Віктар Місевіч.

# Семінарыя ў Гродне стала міждыяцэзіяльнай

## 19 верасня тут распачаўся навучальны год



**19 верасня ў Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне распачаўся новы навучальны год. Святую Імшу з гэтай нагоды ў семінарыі цэлебраваў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, паведамляе Catholic.by.**

Іерарх прыгадаў, што ў 1990 годзе ён стаяў ля вытокаў гэтай установы, якая стала першай каталіцкай семінарыяй у Беларусі на той час. На першым курсе ў ёй вучыліся і семінарысты з Украіны, таму яна атрымала нават міжнародны статус.

"Сёлета згодна з рашэннем Апостальскага Пасаду Вышэйшая духоўная семінарыя ў Гродне становіцца міждыяцэзіяльнай – падрыхтоўку да святарства ў ёй будуць праходзіць кандыдаты з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, а таксама з Гродзенскай і Віцебскай дыяцэзій", – заўважыў Мітрапаліт.

У сваёй гаміліі іерарх паглыбіўся ў этымалогію слова "семінарыя". Паводле арцыбіскупа, яно паходзіць з лацінскага seminarium – "школа маладых дрэўцаў або раслін".

Першыя семінарыі былі заснаваныя пасля Трыдэнцкага Сабору (1545-1563) і сталі адным з найважнейшых элементаў аднаўлення Касцёла.

Задача семінарыі – падрыхтаваць тых, хто будзе не толькі абвяшчаць Божае слова, удзяляць сакраманты і здзяйсняць іншыя паслугі, але і хто павінен стаць духоўным лідарам людзей. Ад якасці святароў будзе залежаць і якасць служэння Касцёла.

### "Святарства – пакліканне, а не прафесія"

Арцыбіскуп адзначыў, што семінарыя як месца фармацыі падобна да таго, "як дзейнічаў з апосталамі Хрыстус: яны слухалі Яго словы, якія рыхтавалі іх да перажывання Пасхальнай таямніцы і спаслання Святога Духа".

Як падкрэсліў Мітрапаліт, святарства – гэта не прафесія, а пакліканне. Тым не менш у семінарыі існуюць свае правілы і свой парадак.

"Семінарыя – месца здабывання чалавечай сталасці, каб быць здольным выконваць святарскае служэнне па прыкладзе Хрыста. Гэтаму павінна служыць паглыбленне веры і імкненне да святасці кандыдатаў да святарства. Духоўная фармацыя пакліканая паглыбляць дух Евангелля і развіваць цесную сувязь з Хрыстом", – адзначыў арцыбіскуп, прыводзячы словы св. Яна Паўла II з яго Апостальскага звароту Pastores dabo vobis.

"Трэба памятаць, што больш чым паўтысячагадовы досвед існавання семінарый значна багацейшы за наш жыццёвы. Гэты досвед трэба шанаваць і карыстацца ім", – нагадаў іерарх.

Арцыбіскуп дадаў, што святарскае служэнне заўсёды патрабуе ад святара чалавечых якасцяў, глыбокай і жывой веры, адпаведнага ўзроўню і ўмення эфектыўнага апостальства, а "таму ўжо ў семінарыі неабходна праз усебаковую фармацыю атрымаць глыбокае разуменне Божых спраў, каб дзейнічаць in persona Christi на хвалу Бога і для збаўлення людзей".

"Вышэйшая духоўная семінарыя ў Гродне, даверся Богу, не бойся цяжкасцяў, смела ідзі наперад і працягвай свае слаўныя традыцыі падрыхтоўкі новых працаўнікоў жніва Хрыстовага!" – заключыў Мітрапаліт Кандрусевіч.

***Андрэй Юхнік**, фота*



# У гонар Маці Божай

*"О Ты, што трон*
*Сабе ў нас абрала..."* (з песні)

*Чанстахоўская Божая Маці,*
*Дазволь нам Цябе*
*праслаўляці!*
*Прымі наша шчырае "дзякуй"*
*І віншаванне са святам!*

**26 жніўня – свята Маці Божай Чанстахоўскай. Копія гэтага абраза вось ужо больш за 400 гадоў знаходзіцца ў галоўным алтары касцёла Нараджэння св. Яна Хрысціцеля ў Камаях і сваім цудоўным ззяннем асвячае касцёл і ўсіх прысутных у ім.**

Кожны год гэтае свята ўрачыста адзначаецца ў нашым касцёле. Да алтара ў гонар Маці Божай як падзяка падносяцца кветкі і дары вырашчанага ўраджаю, чытаюцца адпаведныя прыгожыя тэксты.

Але сёлета гэтае свята праходзіла асабліва ўрачыста. Побач з дарамі, вырашчанымі рукамі камайцаў, падносіліся і стравы з гэтых дароў, падрыхтаваныя ўмелымі рукамі мясцовых гаспадынь. Прыгожа аформленыя, гэта былі не проста стравы, а сапраўдныя творы мастацтва. Падносілі іх да алтара маладыя сем'і з Камаяў. Асабліва кранальна глядзеліся зусім маленькія дзеткі, якія падносілі Маці Божай вырабы, зробленыя сваімі рукамі.

Словам, было чым пачаставаць гасцей, якія з'ехаліся з дзесяці парафій Віцебскай дыяцэзіі, дзесьці больш за 80 чалавек. Гэта былі ўдзельнікі руху "Маці ў малітве". Арганізавалі сустрэчу і прыўрочылі да свята каардынатар руху па Беларусі Людміла Губіна і каардынатар руху па дыяцэзіі Паліна Парфяновіч у гонар 10-годдзя дзейнасці такой супольнасці ў Камайскай парафіі. Нябесная Маці сабрала на сваё свята жанчын-маці, якія моляцца за дзяцей і моладзь.

Узначаліў Св. Імшу адказны за рух "Маці ў малітве" у Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-сальватарыянін з Браслава Адам Квяткоўскі. Супольнасці "Маці ў малітве" прысвяцілі Маці Божай духоўны дар – малітву за дзяцей і моладзь нашай дыяцэзіі, нашай Беларусі, усяго свету, каб Бог сцярог іх ад усяго дрэннага, кіраваў іхнімі рашэннямі, каб будавалі яны сучасны і будучы свет на хвалу Богу і людзям, а Маці Божая была ўсім нам Маці, Выхавацелькай і Апякункай.

Затым удзельнікі сустрэліся за сталом з пачастункамі, паслухалі кіраўнікоў супольнасцей. Самую вялікую колькасць груп накіравала Браслаўшчына, а самая вялікая колькасць удзельнікаў прыехала з Глыбокага. Глыбачане парадавалі ўсіх песняй, прысвечанай Маці Божай – "Ты як прамень святла між цернямі", якую спецыяльна развучылі да гэтай падзеі. На свяце былі ўшанаваны маці, якія выхавалі святароў або сясцёр законных.

Напрыканцы кс. Яцэк павіншаваў усіх са святам, падзякаваў за прыезд і сказаў, што святар не можа працаваць без людзей, а людзі не могуць годна жыць без святара. Усе разам, стоячы, праспявалі песню "Уладарка і зямлі, і неба" і дамовіліся такія сустрэчы праводзіць кожны год у новай парафіі, прымяркоўваць іх да парафіяльных святаў.



У гэты ж дзень праходзіла і свята аграгарадка Камаі.

*У гэты дзень, у гэта свята*
*Прыход Камайскі моліцца Табе!*
*За клопат Твой і ўраджай багаты,*
*Айцец Нябесны, дзякуем Табе!*

***Генавефа Дубіловіч,***
*ад імя парафіян*
*камайскага касцёла*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Лія Мацюшонак** *(Прошкава),* **Вільгельм Драгун** *(Варапаева),* **Ірына Кончыц** *(Гомель),* **Эма Сцяпанава** *(Сталіца),* **Яніна Курыловіч** *(Курылавічы),* **Розель Я.І.** *(Ашмяны),* **Камілія Емельянава** *(Дунілавічы),* **Яніна Дулінец** *(Савуткі),* **Эма Козел** *(Докшыцы),* **Вольга Мятла** *(Сталіца),* **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае),* **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае),* **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае),* **Ірына Грыцкевіч** *(Глыбокае),* **Зоя Шпак** *(Пагошча),* **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог),* **Людміла Сушко** *(Докшыцы),* **Феакцістава Л.М.** *(Камарова),* **парафіяне з Глыбокага, Браніслава Юран** *(Браслаў),* **Яніна Шэнда** *(Зорка),* **Соф'я Чырвінская** *(Язні),* **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца),* **Эма Сцяпанава** *(Сталіца),* **Леанід Грыбач** *(Гомель),* **Яніна Дулінец** *(Савуткі),* **Паўлава Е.П.** *(Віцебск),* **Даната Пачкоўская** *(Савуткі),* **Ніна Шпак** *(Друйск),* **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына),* **Міхаіл Сапель** *(Браслаў),* **Віталь Рагоўскі** *(Браслаў),* **Зоя Воранава** *(Шуміліна),* **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі),* **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі),* **Яўгенія Гунько** *(Барысаў),* **Даната Рудак** *(Янкава),* **Аляксандр Ахрэмчык** *(Лугі),* **Леановіч В.** *(Віцебск),* **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі),* **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле),* **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2),* **Марыя Шук** *(Лявонпаль),* **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы),* **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры),* **Эма Пашкевіч** *(Бігосава),* **Кавалёнак С.К.** *(Прусы),* **Пазняк Л.А.** *(Прусы),* **Аліна Бервячонак** *(Прусы),* **Яніна Палуян** *(Каменка),* **Антаніна Дарашкевіч** *(Янковічы),* **Рудзінская Р.А.** *(Яцковічы),* **Эмілія Стакло** *(Юльянова),* **Яўгенія Чарняўская** *(Парубкі),* **Эма Бугаева** *(Лынтупы).*

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

## Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Віна і як у ёй “не патануць”

**Сёння мы будзем разбіраць эмоцыю віны. Для мяне гэта тэма крыху падобная да папярэдняй – тэмы сораму. І першая, і другая эмоцыі сацыяльныя, гэта значыць, прыдбаныя ад кантакту з іншымі людзьмі. І першая, і другая дастаткова цяжка перажываецца. І ў адным, і ў другім выпадку існуе страх страты любові.**

■ **Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Разгледзім крыху падрабязней. Віна, у адрозненне ад сораму, пачынае развівацца досыць рана, прыблізна ў шасць месяцаў (сорам у 1,5 – 2 гады). Фарміруецца як рэакцыя на пагаршэнне стасункаў з маці. Справа ў тым, што малое дзіця цяжка пераносіць сыход мамы (нават на кароткі час), ёно не мае словаў, каб назваць тое, што з ім адбываецца, але адчуванне ўжо ёсць. Адчуванне дыскамфорту ад самотнасці. Патлумачыць гэтую эмоцыю можна двума спосабамі: “маці дрэнная, бо сышла, я адзін і мне кепска”. Ці другі варыянт: “маці сышла ад мяне, значыцца дрэнны я”. Псіхіка малога ніколі не абярэ першы варыянт, бо гэта будзе проста разбуральным для яе існавання, таму выбар падае на фарміраванне віны. Вядома ж, гэта несвядомы працэс, не прыбраны ў словы.

Сталасці гэтая эмоцыя дасягае прыкладна ў 4,5 – 5 гадоў. Цікавы разгон і невыпадковы. Справа ў тым, што ў некаторых людзей пачуццё віны так і застаецца недаспелым, прыпыняецца дзесці на пачатковым узроўні і можа істотна пагоршыць узровень жыцця асобы. Як так адбываецца?

Саспелае пачуццё віны – голас сумлення, тое, што так важна фарміраваць і ўзрошчваць у сабе, кабадрознівацьдаброізло, рэгуляваць свае ўчынкі, наладжваць добрыя стасункі. У адваротным выпадку чалавек можа мець такое жорсткае Супер-эга (так мы называем адну з частак нашай псіхікі), якое ўвесь час будзе патрабаваць дасканаласці,беспамылковасці. Функцыя Супер-эга ў гэтым выпадку – нагадваць, што любоў трэба зарабляць, быць ідэальным, інакш яе не атрымаеш. І як вынік – пачуццё віны за кожную недасканаласць.

Можа, камусьці знаёмае пастаяннае пачуццё незадаволенасці сабой, якое моцна трымае ў абцугах напружання, не дае разняволіцца, па-сапраўднаму адпачыць, атрымаць задавальненне? Такія людзі часта раздражнёныя, нервовыя, стомленыя, злуюцца на сябе ды іншых. Бо часцей за ўсё ў розных формах мы ад іншых патрабуем таго ж, чаго і ад сябе, а калі не маем літасці да сябе, то і да іншага яе не будзе. Людзі з хранічным (можам і так яго назваць) пачуццём віны часта крыўдзяцца, бо бачаць абвінавачванне там, дзе яго няма, могуць пачынаць апраўдвацца тады, калі ніхто і не нападае. Я не аднойчы сустракалася з выпадкамі, калі ў самыя прыемныя і радасныя моманты жанчыны пачынаюць узгадваць, уздыхаючы, што яшчэ трэба прыбрацца ў хаце, папраць рэчы ды ледзьве не столь памыць, тым самым “прыцягваючы” абавязкі ў свой адпачынак. Так яны скідаюць сваю трывогу, што дазволілі сабе пабыць “недасканалымі”.

У вёсцы маіх дзядулі і бабулі заўжды было негалоснае правіла: “пакуль свеціць сонца, усе мусяць працаваць”, сядзець склаўшы рукі сорамна. Самае непрыемнае, што правіла працавала нават тады, калі тэрміновай працы не было, але ж хранічнае пачуццё віны дзейнічала без перабояў. Дарэчы, неперырыўная віна часам адбіваецца на здароўі чалавека і нават на знешнім выглядзе, напрыклад, згорбленыя спіны могуць сімвалічна абазначаць той цяжар, які адчувае асоба праз гэтую нясцерпную эмоцыю.

Асобнай тэмай ёсць віна чалавека, які выжыў у катастрофах ды няшчасных здарэннях, калі жыццё пераправерыць раецца ў жалобнае пытанне: “Чаму я застаўся жывы, а ты памёр?” Віна перад памерлым, што не быў побач у момант смерці, што запозна выклікаў дактароў, што не забраў з лякарні, каб развітацца дома і г.д. Гэта цяжкія тэмы, звязаныя з гараваннем і незваротнасцю сумнай падзеі. Калі пачуццё віны перад памерлым ці яго роднымі празмерна моцнае або трывае больш за перыяд жалобы (прыкладна, год), варта звярнуцца да спецыяліста.

А мы вяртаемся да здаровага пачуцця віны як рэакцыі на нанясенне рэальнай шкоды чалавеку. Калі мы выпадкова ці свядома крыўдзім кагосьці, псуём рэчы чалавека ці рэпутацыю, забіраем час, грошы ці здароўе іншага, а пасля РАЗУМЕЕМ тую страту, якую панеслі праз нас, а галоўнае – АДЧУВАЕМ боль ад таго што нарабілі, – то гэта азначае, што размова ідзе пра голас сумлення. Тут віна выяўляецца як вельмі карысны інструмент для наладжвання стасункаў. У здаровай сітуацыі бывае так: адчуваем боль ад здзейсненага – адчуваем патрэбу ў прымірэнні – просім прабачэння і г.д. У нездаровым варыянце: адчуваем боль ад здзейсненага – адчуваем патрэбу прымірыцца, але, напрыклад, саромеемся прызнацца, баімся гневу, не верым у магчымасць даравання, стасункі не наладжаныя, віна становіцца хранічнай.

Зычу чытачам адказна фарміраваць сваё сумленне і не абвінавачваць сябе дарэмна.

Дзякуй за ўвагу!

# Марионетка в чужих руках. Что такое манипуляция и как ей противостоять?

**Кто из нас не грешил манипуляцией? Думаю, почти никто не может похвастаться тем, что никогда и ни за что к ней не прибегал. Да и кто не был орудием в руках манипуляторов? Все, осознанно или бессознательно, манипулируют друг другом.**

■ **Марина Ткач**, *магистр психологии*



С манипуляциями мы сталкиваемся повсюду – дома, на работе, на отдыхе, везде, где есть люди. Как ни странно, но желание манипулировать у людей в крови. И тут нет ничего удивительного. В обществе предусмотрены различные способы взаимодействия людей друг с другом: в одних случаях люди договариваются, в других они конфликтуют, дерутся и даже воюют, в третьих друг другом манипулируют. По своей сути **манипуляция** – это скрытое воздействие на другого человека для получения какой-либо выгоды или удовлетворения своих корыстных целей в ущерб ему.

Манипуляция чаще всего видится нами как негативное, деструктивное (разрушающее) явление, которое берёт нас в “рабство” и не позволяет делать нам то, чего в действительности хотим мы сами. Но эффект от манипуляции может быть как положительным, так и отрицательным. Всё зависит от того, к чему вы решите побудить тех или иных людей.

Существует множество способов и видов манипуляций, однако их можно разделить на несколько основных типов.

**Манипуляция любовью.** Одна из самых коварных и жестоких манипуляций, которыми часто пользуются в семьях. Рассчитана она на страх быть отвергнутым. На одну чашу весов кладётся любовь, а на другую некое условие (если любишь, то…) Получается, что любовь – это некий предмет торга, который при необходимости можно обменивать на услуги или даже деньги.

**Манипуляция страхом.** Использование людских страхов – один из самых любимых приёмов манипуляторов. Очень часто они играют на недостаточной информированности человека.

**Манипуляция неуверенностью в себе.** Проблема заключается в том, что манипулятор не обладает реальным авторитетом, не является властью, но, безусловно, хочет ею быть. Здесь всегда пытаются найти подтверждение своей состоятельности за счёт чужих недостатков. В данном случае манипулировать вами смогут только, если вы по поводу своего недостатка переживаете.

**Манипуляция чувством вины.** Здесь акцент делается на желании загладить свою вину с помощью того, чего от вас хочет манипулятор.

**Манипуляция позитивными чувствами**, а именно, в противоположность давлению на чувство вины может использоваться лесть, похвала перед тем, как добиться своей выгоды.

**Манипуляция чувством жалости.** Манипуляторы чувством жалости чаще всего прикрываются своей беспомощностью или болезнью и тем самым пытаются, чтобы кто-то сделал за них какие-то действия или принял решения.



Но, как известно, на любое действие есть свое противодействие. Манипуляция не стала исключением. Первым и главным действием является **понимание (осознание)** того, что вами манипулируют. Пока вы не понимаете этого, вы не принимаете никаких защитных действий.

**Помните о своих правах и интересах.** Защита от манипулирования предполагает постоянное, чёткое и ясное сохранение в сознании ваших главных интересов.

**Эмоциональный самоконтроль.** Манипулирование – игра на эмоциях и чувствах, поэтому постарайтесь контролировать свои эмоции и чувства, в моменты принятия важных решений гасите излишнюю эмоциональность. Таким образом вы лишите манипулятора его главного инструмента воздействия, а именно, ваших эмоций.

**Не спешите.** Если вы чувствуете, что на вас оказывают давление, не торопитесь принимать решение. В данном случае время будет играть на вас и тем самым поможет дистанцироваться от попыток давить на вас.

**Умейте говорить “нет”.** Это важнейшая часть искусства коммуникации. Чётко сформулированный отказ позволяет вам твёрдо стоять на своем, сохраняя при этом нормальные отношения с собеседником. Вы имеете полное право устанавливать приоритеты, не испытывая при этом чувства вины.

**Игнорирование.** Можно оставить незамеченным сказанное манипулятором. Это также слегка ослабит силу влияния на вас. Главное не поддаться на демонстративное чувство обиды, которое может после этого последовать.

**Будьте непредсказуемыми.** Непредсказуемый человек неуязвим, о нём сложно составить мнение, под него сложно подстроиться.

Замечу, что большинство людей хотят, чтобы ими манипулировали. Всё дело в ответственности. Люди не хотят нести ответственность за свою жизнь, им проще переложить её на других. Ведь гораздо легче сказать, что тебя обманули, а не ты сам обманулся, что тебя ввели в заблуждение, а не сам ты такой невнимательный и наивный и так далее. Поэтому манипуляция для большинства людей – это подобие “козла отпущения”, на которого можно всё свалить. Суть в том, что, когда нами манипулируют, обязательно встает выбор: со своими высказываниями сражаться или сдаться и начать обвинять во всех бедах и несчастьях других. Сами понимаете, что сражаться сложнее, сдаться проще. Остаётся только сделать выбор, а он всегда за вами! Желаю удачи!

# У лепельскім касцёле Святога Казіміра асвяцілі матацыклы і шлемы

**Мерапрыемства прайшло ў суботу, 8 верасня, і было прымеркаванае да Дня горада Лепеля, які адзначаецца ў пачатку верасня.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



Байкеры збіраюцца ў Лепелі ўжо ў пяты раз. Сёлета іх было больш за паўсотні. Уласна з іх праезду па плошчы і пачынаецца свята горада. Гэтае мерапрыемства арганізоўваюць гарадскія ўлады, а вось галоўны на байкерскіма свяце – жыхар Лепеля Валерый Асоўскі:

– Я паклікаў хлопцаў падтрымаць наш Дзень горада, падтрымаць ксяндза Уладзіміра, гэта ў нас ужо традыцыя, гэта наш пяты збор і асвячэнне матацыклаў, шлемаў.

Лепелю пашанцавала і ў тым, што цяперашні пробашч ксёндз Уладзімір Заянчкоўскі, як і яго папярэднік ксёндз Андрэй Аніскевіч, з'яўляецца вялікім прыхільнікам байкерскага руху. А ў гэты дзень байкеры мелі магчымасць наведаць святыню.

"Галоўная ідэя мерапрыемства – гэта тое, што хоць раз хочацца прывесці людзей да касцёла, да Пана Бога, да царквы, каб яны толькі хадзілі. З тых людзей, што тут ёсць, зусім малы працэнт быў у касцёле або царкве. Таму гэта такі вялікі крок, каб яны наведалі святыню, прыйшлі да Бога і хаця б тут памаліліся за сваіх родных, за сваіх блізкіх", – адзначыў ксёндз Уладзімір.

Свята распачалося з праезду байкераў па галоўнай плошчы Лепеля. Матацыклы зрабілі па ёй тры колы, што выклікала вялікую радасць ва ўсіх гледачоў. Шмат хто здымаў убачанае на свае мабільныя тэлефоны. Святкаванню спрыяла і надвор'е, якое ў гэты вераснёўскі дзень выдалася проста цудоўным.

"Для мяне матацыкл у першую чаргу – гэта свабода перамяшчэння, гэта магчымасць рухацца так, як падказвае тваё сэрца", – падзяліўся ўражаннямі Марк Баранчукоў.

З ім згодны і яго калега Сяргей Лычкоўскі:

– Чалавек увесь час да нечага павінен імкнуцца, нешта пазнаваць. Не павінна ўсё стаяць на адным месцы. Жыццё становіцца сумным, калі чалавек усяго дабіваецца. Трэба ўвесь час да нечага імкнуцца.

"Я ў асноўным езджу адзін. У мяне тады з'яўляюцца думкі, якія дапамагаюць у працы… Я так адпачываю. Атрымліваю адрэналін, і гэта таксама вялікая справа. Бо яго ў наш час мала, а хочацца ўсё больш і больш. Спадзяюся, у наступным годзе я адважуся на скачок з парашутам", – адзначыў Валерый Асоўскі.

Пасля праезду па плошчы байкеры накіраваліся ў касцёл, дзе паклалі да алтара свае шлемы. На самым пачатку малітвы ксёндз Уладзімір іх асвяціў, пасля было прачытанае Божае Слова. Далей святар звярнуўся з кароткім казаннем да ўдзельнікаў мерапрыемства. Ён заклікаў іх берагчы сваё жыццё, ездзіць асцярожна, пажартаваўшы, што ў адваротным выпадку анёл-ахоўнік не паспее за байкерам:

– Заўсёды, каб анёл-ахоўнік дагнаў матацыкліста, трэба цішэй ехаць. Вядома, анёлы хутка лётаюць за намі, але не трэба выпрабоўваць ні Бога, ні анёлаў. Тады анёл сапраўды дагоніць і будзе разам апекавацца кіроўцам, які едзе на матацыкле.

Перад касцёлам ксёндз асвяціў матацыклы, пасля чаго ўсе ўдзельнікі зрабілі агульнае фота перад уваходам у храм. Святар таксама адзначыў, што для яго, як і для астатніх байкераў, матацыкл у першую чаргу – гэта сімвал свабоды:

– Кожны чалавек хоча быць свабодным. І больш за тое, ён часам забывае, што ён ходзіць пад Богам і зусім не свабодны. Але чалавек хоча пабыць адзін, хоча ехаць адзін, і для яго гэта свабода, калі ён сеў і едзе, нават калі не ведае, куды. І пры гэтым моліцца таксама.

І хаця нямала ўдзельнікаў гэтай імпрэзы не з'яўляюцца вернікамі, яны станоўча паставіліся да выдатнай магчымасці сабрацца разам, каб зрабіць свята не толькі сабе, але і астатнім месцічам.

"Я не з'яўляюся вернікам, таму для мяне гэта па вялікім рахунку толькі як частка мерапрыемства, гэта не нясе для мяне нейкай сэнсавай нагрузкі. Але шмат хто з вернікаў ацэніць гэта як належыць", – адзначыў Марк Баранчукоў.

Арганізатар мерапрыемства Валерый Асоўскі распавёў, як сам прыйшоў да веры пасля дарожна-транспартнага здарэння:

– У 2016 годзе я трапіў у вельмі сур'ёзнае ДТЗ. Ледзь выжыў. Ксёндз Андрэй, які раней тут працаваў, вельмі мяне падтрымаў у той момант. Ён прыйшоў пасля аперацыі, сказаў, што ты будзеш жыць. І я тады падзякаваў Богу, што Ён мяне выратаваў.

Мы спыталі ў спадара Валерыя, ці не было жадання пасля аварыі супакоіцца і пакінуць сваё захапленне. Ён адказаў, што спачатку было:

– Недзе каля трох тыдняў. Я бацькоў супакойваў, мама казала, не сядай на яго больш. І я казаў, што не сяду.

Але любоў да байка ўсё ж перамагла, і Валерый зноў сеў на матацыкл. Тым больш, што бацькі самі ў свой час падарылі яму "Яву" на шаснаццацігоддзе. Трэба сказаць, што бацькі з разуменнем паставіліся да выбару сына. Адзінае, папрасілі цішэй ездзіць.

Жонка Вольга таксама падтрымлівае мужа. Яна кажа, што язда на матацыкле дадае адрэналіну і ёй таксама. А яшчэ дзякуючы захапленню мужа ў іх з'явілася шмат новых сяброў:

– Дзякуючы гэтаму руху ў нас з'явілася шмат сяброў, у нашым асяроддзі ёсць цяпер вельмі добрыя людзі, якія заўсёды могуць прыйсці на дапамогу.

Напрыканцы мерапрыемства байкеры сустрэліся ў парафіяльным цэнтры за кубачкам кавы. Такія сустрэчы, на думку ўдзельнікаў, спрыяюць сяброўству і даюць магчымасць абмяняцца сваімі ўражаннямі і вопытам.





# У Мёрах і Лепелі адкрыліся дзіцячыя цэнтры Caritas



**У нядзелю, 2 верасня, яны былі асвечаныя і прынялі першых наведвальнікаў.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота;*
**Марына Сінкевіч, Дар'я Галубкова**, *фота*

Адкрыццё гэтых цэнтраў адбылося ў рамках праекта "Утварэнне і функцыянаванне інтэграцыйных святліц для дзяцей", галоўнымі спонсарамі выступілі праграма "Польская дапамога" Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча і Caritas Польшча.

Асвячэнне Цэнтра ў Мёрах адбылося аб 11-й гадзіне пасля Імшы ў касцёле. Сам Цэнтр, або як яго яшчэ называюць святліца, размешчаны па вуліцы Паштовай. На яго адкрыццё завіталі прадстаўнікі чэшскай арганізацыі Caritas, дырэктар Яраслаў Немец і яго намеснік Павел Шымек. Яны таксама аказваюць дапамогу дзецям з Беларусі.

– Мы дапамагаем, таму што трэба дапамагаць. Мы думаем, што тут, на ўсходзе, у Беларусі, шмат бедных людзей. Такая наша праца – дапамагаць людзям праз Caritas, – адзначыў Павел Шымек.

Новы Цэнтр асвяціў пробашч Мёрскай парафіі ксёндз Кшыштаф Мянкіна. Дзеці атрымалі падарункі ад Caritas, якія ўручыў ім ксёндз Андрэй Аніскевіч, дырэктар Caritas Віцебскай дыяцэзіі.

Кіраўнік парафіяльнага Caritas у Мёрах Ганна Вайсковіч адзначыла важнасць гэтай святліцы для дзяцей і моладзі:

– Святліца – вельмі важнае месца для нас, таму што ёсць дзе сустракацца дзецям, моладзі. Яны могуць праводзіць свой вольны час, могуць праводзіць заняткі не толькі па рэлігіі, але і іншыя ўрокі. Могуць сустракацца са сваімі сябрамі, папіць гарбаты, паглядзець тэлевізар. Таму для нас гэта вельмі важны і прыемны падарунак.

Спадарыня Ганна выказала ўдзячнасць усім, хто спрычыніўся да яго адкрыцця:

– Мы вельмі ўдзячныя дырэктару Caritas Віцебскай дыяцэзіі за тое, што ён падтрымаў гэты праект, і ўсім, хто далучыўся да арганізацыі і хто рабіў рамонт у святліцы.

У сваю чаргу ксёндз Андрэй падзякаваў спонсарам за магчымасць адкрыцця такіх Цэнтраў у Мёрах і Лепелі:

– Я вельмі ўдзячны, што ўрэшце гэтыя спробы варыянт нашых святліц, нашага Цэнтра для прабывання дзяцей і моладзі атрымаўся. Мы гэта зрабілі разам з нашымі партнёрамі, супрацоўнікамі, з тымі людзьмі, што нам дапамагаюць. Гэта Caritas Польшчы і праграма Міністэрства замежных спраў Польшчы "Польская дапамога". Яны вельмі шмат дапамаглі, амаль усё яны тут зрабілі.

Адкрыццё падобнай святліцы ў Лепелі адбылося а 17-й гадзіне таксама пасля Імшы ў касцёле. Імшу ўзначаліў ксёндз Андрэй Аніскевіч, які ў свой час служыў у Лепелі. І падчас казання, і падчас уласна адкрыцця ксёндз Андрэй падкрэсліў, што Касцёл – гэта не толькі святары і храмы, а гэта ў першую чаргу супольнасць вернікаў:

– Касцёл – гэта не толькі святары, Касцёл – гэта людзі. І Касцёл – гэта не толькі будынак. Калі гэты будынак будзе пуставаць, калі гэта памяшканне будзе пуставаць, то тады няма сэнсу ў нашых стараннях. А калі тут будуць людзі, калі тут будзе дзіцячы смех, радасць, калі дзеці тут будуць адзначаць свае дні нараджэння, гэта вельмі важна.

Пасля Імшы ў знак адкрыцця была перарэзаная чырвоная стужка, а пробашч Лепельскай парафіі ксёндз Уладзімір Заянчкоўскі асвяціў памяшканне Цэнтра. У Лепелі дзеці таксама атрымалі падарункі ад Caritas. Іх уручыў ксёндз Андрэй Аніскевіч, яму дапамагалі выхавальнікі, што будуць тут працаваць.

– У дзяцей ёсць жаданне наведваць касцёл, а тым больш калі будзе арганізаваная такая святліца, мы будзем старацца працаваць, і ў нас будзе ўсё добра, – выказала надзею адна з выхавальніц Вікторыя Варанько.

Кіраўнік лепельскага Caritas Міхаіл Маркевіч ад імя ўсіх парафіян выказаў удзячнасць ксяндзу Андрэю і замежным спонсарам за такі падарунак:

– Мы, усе парафіяне, вельмі радыя, што такі Цэнтр адкрыўся тут у нас, у Лепелі. Мы вельмі ўдзячныя нашым спонсарам, бо без іх тут наогул нічога б не было. Уся парафія ўдзячная ксяндзу Андрэю за яго старанні, за арганізацыю.

У сваю чаргу кіраўнік Caritas Віцебскай дыяцэзіі выказаў надзею, што з сённяшніх дзяцей вырастуць годныя людзі. Магчыма, сярод іх будуць знакамітыя асобы, кіраўнікі, якія змогуць вырашаць важныя пытанні. І яны будуць памятаць пра тыя шчаслівыя хвіліны, што перажывуць тут разам.

– Невядома, хто чым будзе займацца ў жыцці. Але гэта недзе ў душы адкладзецца, што Касцёл – гэта тое дабро, якое мы павінны разам з усімі людзьмі несці ў свет і паказваць усім, што мы – гэта адно цэлае, адна сям'я. Гэта перш за ўсё, – адзначыў святар.

Сястра Дар'я Галубкова, якая будзе займацца такімі праектамі ў Віцебскай дыяцэзіі, таксама выказала падзяку ўсім спонсарам і адзначыла, што ў раёнах, у Мёрах, тут, у Лепелі, не так шмат ёсць месцаў, куды дзеці могуць пайсці, каб пабыць разам:

– Гэта святліца прызначаная не толькі для катэхезы, але і для іншых заняткаў, у тым ліку інтэграцыйных, куды змогуць прыходзіць дзеці з інваліднасцю, дзеці, пазбаўленыя бацькоўскай апекі, з цяжкім становішчам у сям'і. Гэта паспрыяе іх інтэграцыі, сяброўству.

У святліцах будуць праходзіць не толькі катэхетычныя заняткі, але і вывучэнне англійскай мовы, будуць праходзіць забаўляльныя гульні, дзеці змогуць вучыцца іграць на музычных інструментах або проста сабрацца, каб адзначыць Дзень нараджэння.

Ксёндз Андрэй паведаміў, што ёсць планы, каб адкрыць падобныя святліцы ў Глыбокім і Оршы. Спадзяёмся, што спонсары падтрымаюць гэту добрую справу.









# Афіцыйны візіт у родную парафію

**Біскуп Алег Буткевіч наведаў з пастырскай візітацыяй родную парафію ў Браславе.**

**Святлана Жылевіч**, *тэкст;* **Ірына Гайдамовіч**, *фота* ***waladarka.by***

Вернікі Браслаўскай парафіі ўжо прызвычаіліся часта бачыць у сценах сваёй святыні біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча, які прыязджае сюды адведаць бацькоў ці на мерапрыемствы дыяцэзіяльнага маштабу. Аднак на гэты раз прычынай візіту іерарха стала кананічная візітацыя, якая распачалася 8 верасня, у дзень парафіяльнай урачыстасці ў гонар Нараджэння Маці Божай, і завяршылася 10 верасня.

У гэтыя дні іерарх не толькі маліўся разам з вернікамі ў святыні і прапаведаваў ім Божае слова, але і сустрэўся з удзельнікамі розных малітоўных рухаў, наведаў капліцу і хворых у гарадской бальніцы, спаткаўся з жыхарамі дома-інтэрната для інвалідаў і састарэлых.

"Я як душпастыр хачу прывітаць біскупа Алега ў яго роднай парафіі, – адзначыў пробашч парафіі ксёндз Станіслаў Мжыглуд. – Цешымся, што ты нас наведваеш. Святы Павел у Першым пасланні да Карынцянаў піша пра сябе самога і іншых апосталаў: "Няхай кожны лічыць нас слугамі Хрыста і распарадчыкамі Божых таямніц". Біскуп – наступнік апосталаў – перадусім з'яўляецца слугой Хрыста, і менавіта як такога вітаем цябе, шануючы як біскупа. Святы Ян Павел II напісаў, што пастырская візітацыя з'яўляецца душой біскупскай паслугі, духоўнай прысутнасцю біскупа сярод вернікаў. Глыбока верым, што праз тваю паслугу Божага слова і ўдзяленне святых сакрамантаў сыдзе на нас велізарная Божая ласка".

У першы дзень візітацыі пробашч нагадаў біскупу і вернікам гісторыю парафіі, распавёў пра дзейнасць сальватарыянаў і сясцёр-эўхарыстак. Святар нагадаў, што ў браслаўскай супольнасці вернікаў існуе некалькі малітоўных рухаў (а з нядзелі, 9 верасня, пачалі малітву і дзве групы апостальскага руху "Маргарытка", у якіх вернікі будуць маліцца за біскупа Алега і ксяндза Станіслава). Ёсць хор, музычны гурт моладзі "AlisFamily" і падлеткавы "ExAnima", а таксама тэатральны калектыў.

"Ксёндз-біскуп, вітаючы цябе ў нашай супольнасці, выказваю вялікую ўдзячнасць за дапамогу, за працу, за ўсё, што робіш, каб гэта парафія была сапраўды жывой духам", – дадаў ксёндз Станіслаў.

"Мне пашчасціла нарадзіцца тут. Пан Бог пакіраваў так, што, як бачыце, маю магчымасць наведаць маю парафію сёння, – адказаў біскуп Алег Буткевіч. – Гэта асаблівы візіт, афіцыйны, і таму пачуцці мае змешаныя. Але Касцёл у сваёй мудрасці вызначае, як што павінна адбывацца, і таму сёння я з вамі ў сваім сэрцы адчуваю ўдзячнасць Пану Богу, Найсвяцейшай Панне Марыі, нараджэнне Якой мы сёння святкуем, за тое, што магу з вамі маліцца".

Біскуп адзначыў, што паколькі сам паходзіць з Браслаўскай парафіі і часта тут бывае, то больш-менш уяўляе, як выглядае парафіяльнае жыццё, але для вернікаў візітацыя – гэта таксама магчымасць задаць пытанні біскупу, паразмаўляць з ім на праблемныя тэмы.





# Што мы ведаем пра Папу Рымскага?

**Правер свае веды ў новым тэсце Каталіцкага Весніка**

1 Выберыце правільны тытул Папы Рымскага:



**А.** Вікарый Хрыста
**Б.** Вікарый Святога Пятра
**В.** Прэзідэнт Ватыкана

2 Як называецца сход кардыналаў для абрання новага Папы?



**А.** Сусветны сабор
**Б.** Памесны сабор
**В.** Канклаў

3 Наякі тэрмін выбіраецца Папа Рымскі?



**А.** 5 гадоў
**Б.** 10 гадоў
**В.** Пажыццёва

4 Як называецца папская карона?



**А.** Плюмаж
**Б.** Тыяра
**В.** Дыядэма

5 Найбольш папулярнае імя сярод рымскіх пантыфікаў у гісторыі:



**А.** Грыгорый
**Б.** Бэнэдыкт
**В.** Ян

6 Які Папа публічна пацалаваў Каран?



**А.** Францішак
**Б.** Ян Павел II
**В.** Бэнэдыкт XVI

7 Да якога ордэна належыць цяперашні Папа?



**А.** Дамініканцы
**Б.** Салезіянцы
**В.** Езуіты

8 Колькі разоў Папа Рымскі быў на беларускай зямлі?



**А.** Адзін раз
**Б.** Тры разы
**В.** Ні разу. Вельмі чакаем прыезду Папы ў Беларусь!

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

***Правільныя адказы глядзіце на стар. 12***

# Каляндар на кастрычнік



**Кастрычнік – месяц ружанцовай малітвы. У гэты перыяд Касцёл асабліва заахвочвае нас маліцца гэтай малітвай.**

**Ружанец** (на лаціне *rosarium* – ружавы вянок) – пэўны спосаб малітвы, паслядоўнасць якой адлічваецца, нібы па пялёстках ружы.

Айцом ружанца лічыцца святы Дамінік. Паданне гаворыць, што так маліцца навучыла яго сама Найсвяцейшая Дзева. Яна і даручыла яму распаўсюджваць гэтую малітву па ўсім свеце. Але гэта не быў ружанец у яго сучаснай форме. Ружанец у тым выглядзе, на якім мы молімся зараз, склаўся дзякуючы дамініканцу Алану дэ ля Рошу (1428-1475). Ён усталяваў па колькасці псальмаў у Псалтыры 150 "Вітай Марыя", падзеленыя на 15 дзясяткаў, кожнаму з якіх папярэднічала малітва "Ойча наш". Каб распаўсюдзіць гэтую малітву, ён арганізаваў першыя колы св. Ружанца. У XVI стагоддзі ружанец быў канчаткова падзелены на тры часткі, кожная з якіх уключала пяць таямніц (у 2002 годзе была дададзеная яшчэ адна, чацвёртая частка).

**4 кастрычніка – успамін святога Францішка Асізскага.**



Францішак Асізскі – заснавальнік ордэна меншых братоў – нарадзіўся ў 1181 г. у горадзе Асізі ў Умбрыі (Цэнтральная Італія), у сям'і купца і гандляра тканінамі Пьетра Бернардоне. Правёўшы юнацтва бесклапотна і весела, ва ўзросце 24 гадоў ён перажыў навяртанне і з таго часу цалкам прысвяціў сябе Богу. Ён пачаў жыць у крайняй беднасці, даглядаў пракажоных, уласнымі рукамі адбудоўваў разбураныя касцёлы, прапаведаваў. У хуткім часе ў яго з'явіліся паплечнікі, а яшчэ крыху пазней – у 1209 г. – Папа Інакенцій III зацвердзіў Правіла новага братэрства. Так з'явіўся Францішканскі ордэн. За два гады да смерці Францішак атрымаў ад Пана дзіўны дар – стыгматы. Знясілены пастаянным постам і суровым ладам жыцця, 3 кастрычніка 1226 г. ён памёр. Менш як праз два гады Папа Грыгорый IX залічыў Францішка да ліку святых. Яго "Гімн Сонцу" стаў першым вершам на італьянскай мове, даўшы пачатак развіццю паэзіі на нацыянальных мовах.

**7 кастрычніка – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.**

**15 кастрычніка – успамін св. Тэрэзы Авільскай.**



Тэрэза Авільская нарадзілася 28 сакавіка 1515 года ў Авіле (Іспанія). З дзяцінства будучая святая адрознівалася любоўю да кніг і глыбокай пабожнасцю. Ва ўзросце 20-ці гадоў яна таемна збегла з дому і ўступіла ў кармеліцкі кляштар у Авіле, узяўшы пры гэтым імя ад Езуса. Пасля нядоўгага знаходжання ў манастыры Тэрэза цяжка захварэла, яе паралізавала, але яна перамагла хваробу. У манастыры Тэрэза набыла багаты містычны досвед: ёй неаднаразова з'яўляўся Езус, а херувім працяў яе сэрца вогненнай дзідай. Перажыўшы глыбокі містычны вопыт, святая імкнулася да дасканаласці жыцця, і таму ў 1562 годзе ў Авіле заснавала першы рэфармаваны кармеліцкі кляштар, у якім шмат увагі прысвячала малітве, самотнасці, суровай аскезе. У кляштары жыло ўсяго 12 сясцёр – па ліку апосталаў.

Тэрэза Авільская прайшла пешшу па ўсёй Іспаніі 5600 кіламетраў, і напрыканцы яе жыцця ў Іспаніі было 16 такіх рэфармаваных супольнасцей, якія сталі ядром новай галіны кармеліцкага манаства – "басаногіх кармелітак". Самым значным творам святой Тэрэзы стаў "Унутраны замак". У гэтым містычным трактаце яна адлюстроўвае душу як замак са шматлікімі пакоямі, у цэнтры якога знаходзіцца Хрыстус.

Святая Тэрэза памерла ў 1582 г. У 1622 г. Папа Рыгор XV далучыў яе да ліку святых. У 1970 г. Папа Павел VI абвясціў яе Доктарам Касцёла.

Святая Тэрэза Авільская лічыцца галоўнай нябеснай заступніцай Іспаніі.

**18 кастрычніка – успамін святога Лукі, евангеліста.**



Евангеліст Лука быў антыяхійцам па нараджэнні і першапачаткова язычнікам па веравызнанні. Прыняўшы веру Хрыста ў сталіцы Сірыі, будучы сведка-пісьменнік сустрэўся з найбольш вядомым прапаведнікам Езуса – апосталам Паўлам. Ад яго, а таксама з іншых крыніцаў, ці то запісаных, ці то вусных, ён атрымаў інфармацыю, якую змясціў на старонках Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лука ўдзельнічаў у некаторых місійных падарожжах Апостала Народаў, даследаваў жыццё Хрыста ў Палесціне, вызначаўся мастацкім талентам, быў медыкам па прафесіі. Айцы Касцёла з першых стагоддзяў, а менавіта Ірэней з Ліёна (130–202 гг.), Клімент з Александрыі (150–215 гг.), Эўсэбій з Кесарыі (каля 325 г.), а таксама Канон Мураторыя (каля 170 г.) упэўнена называюць імя Лукі як аўтара трэцяга Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лічыцца, што Лука загінуў мучаніцкай смерцю за веру.

**22 кастрычніка – успамін святога Папы Яна Паўла II.**



22 кастрычніка 1978 года ўрачыста распачаўся пантыфікат Вялікага Папы Яна Паўла II, які доўжыўся 27 гадоў і быў адным з самых працяглых пантыфікатаў у гісторыі Каталіцкага Касцёла За час свайго служэння Папа здзейсніў 146 апостальскіх візітаў на тэрыторыі Італіі, 104 замежныя візіты, абвясціў 1338 чалавек благаслаўлёнымі і 482 чалавекі святымі. Сэрца Пантыфіка, шырока адкрытае для ўсіх, а перадусім для Бога, перастала біцца 2 красавіка 2005 г. Ён быў абвешчаны святым 27 красавіка 2014 г.

**28 кастрычніка – успамін святых Сымона і Юды, апосталаў.**



Апостал Сымон перад тым, як далучыўся да супольнасці дванаццаці, належаў да палітычна-рэлігійнай габрэйскай групоўкі, чальцы якой называлі сябе зелотамі (арамейск. кананітамі) – руплівымі, змагарамі. Пасля ўваскрасення Хрыста ён абвяшчаў Евангелле ў асноўным у Егіпце і Арменіі. Апостал Юда Тадэвуш, які падчас развітання з Хрыстом спытаў у Яго: "Пане, чаму Ты хочаш аб'явіць Сябе нам, а не свету?", напачатку абвяшчаў Евангелле ў Эдэсе, дзе ахрысціў мясцовага цара і ўсіх яго падданых. У знак падзякі за гэта цар Эдэсы падарыў апосталу выяву Хрыста, якую Юда Тадэвуш заўсёды насіў на грудзях. Паводле паданняў, абодва гэтыя апосталы вялі місіянерскую дзейнасць у Сірыі, Персіі і Месапатаміі і разам былі забітыя дубінамі каля 71 г. (па іншых звестках, Сымон быў распілаваны).

Цела св. Юды з цягам часу перавезлі ў Рым. І па сённяшні дзень яно знаходзіцца ў базыліцы св. Пятра, дзе шматлікія вернікі аказваюць яму вялікую пашану. Папа Павел III у брэве ад 22 верасня 1548 г. удзяліў поўны адпуст тым, хто будзе маліцца каля святых рэліквій Апостала ў дзень яго свята, г. зн. 28 кастрычніка.

Св. Апостал Сымон з'яўляецца апекуном дрывасекаў і іншых лясных працаўнікоў, а заступніцтва св. Юды Тадэвуша просяць у безвыходных сітуацыях. Вядома, што той, хто ў самых складаных жыццёвых сітуацыях з глыбокаю вераю звернецца да св. Юды, абавязкова атрымае дапамогу: калі не тую ласку, пра якую просіць, то духоўную моц, каб несці свой крыж, цалкам аддаючыся Божай волі.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## На кастрычнік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**2 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

**4 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, імяніны адзначаюць **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)* і **ксёндз прэлат Францішак Кісель** *(Полацк)*;

**7 кастрычніка** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Віцебск)*;

**8 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)* і **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**11 кастрычніка** – імяніны адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**13 кастрычніка** – імяніны адзначаюць **ксёндз канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)* і **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*;

**18 кастрычніка** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз канонік Андрэй Аніскевіч**, дырэктар Карытас *(Віцебск)*;

**21 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Казімір Акушка** *(Плюсы)*;

**22 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ксёндз Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*, імяніны адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Віцебск)*;

**24 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **а. Андрэй Букштан OFMCap** (Докшыцы);

**25 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **а. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*;

**28 кастрычніка** – імяніны адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMcap** *(Докшыцы, Бягомль)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***

# Як працуе парафіяльная рада?



*"Хвала Хрысту!
У мяне такое пытанне.
Хто выбірае парафіяльную раду? І як яна працуе?"*
*Станіслаў*

**На пытанне адказвае ксёндз Віктар Місевіч, канцлер Віцебскай дыяцэзіі:**

– Шаноўны сп. Станіслаў! Тэма, якую Вы закранаеце сваім пытаннем, надзвычай важная і патрэбная, таму што дапамагае нам лепш разумець унутраную арганізацыю і функцыянальнасць каталіцкай парафіі. Парафія – гэта арганізм, супольнасць, якая кіруецца пэўнымі нормамі. І на грунце свецкага права і паводле кананічнага права Касцёла каталіцкая парафія ў Беларусі заўсёды валодае юрыдычнай адметнасцю.

Такім чынам, у парафіі павінны быць пэўныя атрыбуты, якія дапамагаюць ёй функцыянаваць і выконваць сваё прызначэнне. Адным з такіх атрыбутаў з'яўляецца парафіяльная рада. Падыход да гэтага інстытуту адрозніваецца з пункту гледжання свецкага заканадаўства і кананічнага права. Паспрабуем растлумачыць, што да чаго. Паколькі пытанне, пастаўленае вышэй, належыць выключна да кампетэнцыі заканадаўства, то ў сваім артыкуле я буду карыстацца наступнымі юрыдычнымі дакументамі:

1. Кодэкс кананічнага права Каталіцкага Касцёла 1983 г.;
2. Статуты сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій;
3. Статут парафіі св. Уладзіслава ў Віцебску, пробашчам якой цяпер сам і з'яўляюся.

Што кажа Кодэкс кананічнага права пра парафіяльную раду? Трэба зазначыць, што Кодэкс нічога не гаворыць пра інстытут парафіяльнай рады ў Каталіцкім Касцёле. Аднак у кан. 536 ККП акрэслівае магчымасць стварэння душпастырскай рады, якая мае толькі дарадчы голас, кіруецца нормамі, акрэсленымі біскупам, і дапамагае пробашчу ў душпастырскай працы. Стварэнне такой рады ў парафіі не з'яўляецца абавязковым.

Але наступны канон 537 ККП акрэслівае абавязак стварэння ў парафіі Рады па эканамічных справах. І тут ужо патрабаванне касцельнага заканадаўцы аднязначнае: такая рада павінна быць створаная ў парафіі. Сэнс існавання такой рады палягае ў дапамозе пробашчу ў адміністраванні парафіяльнай супольнасцю. Варта заўважыць, што згодна з паўсюдным правам Касцёла кіраўніком парафіі з'яўляецца пробашч, а ўсе іншыя супрацоўнікі толькі дапамагаюць яму ў выкананні яго паслугі. Кодэкс кананічнага права не акрэслівае падрабязна, якім чынам адбываюцца выбары ў раду і ў чым канкрэтна заключаюцца яе абавязкі. Па адказы на гэтае пытанне варта звярнуцца да партыкулярнага права, г.зн. да нормаў, выдадзеных біскупам ці да дыяцэзіяльных статутаў. Важная інфармацыя таксама па гэтым пытанні змяшчаецца ў парафіяльным статуце, які зацвярджаецца біскупам і рэгіструецца ў аблвыканкаме.

Статуты сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій, прамульгаваныя для Віцебскай дыяцэзіі 30 верасня 2000 года біскупам Уладзіславам Бліном, акрэсліваюць пытанне Рады па эканамічных справах парафіі ў пунктах 1023-1033. Цікава, што Сінод дыяцэзіі палічыў неабходным у самым першым пункце падкрэсліць важнасць т.зв. кананізацыі свецкага права. Працытуем яго цалкам: *"Камуністычная ўлада ўвяла ў жыццё Касцёла на Беларусі парафіяльныя камітэты як абавязковыя. Яны і надалей кіруюцца статутам, зацверджаным дзяржаўнай уладай. Іх галоўным заданнем з'яўляецца распараджэнне парафіяльным фондам. Гэтае заданне ў пэўнай ступені супадае з заданнямі Рады па эканамічных справах."* Такім чынам, бачым, што касцельны заканадаўца схільны ўспрымаць парафіяльныя камітэты як інстытуты, што адпавядаюць патрабаванням кананічнага права. Наконт мэтаў і заданняў усё зразумела. Разыходжанні паміж палажэннямі дыяцэзіяльнага права і Статутамі парафіі могуць быць у пытанні кадэнцыйнасці Рады, яе складу і частотнасці пасяджэнняў.

Напрыклад, Стутуты дыяцэзіі ў пункце 1024 сцвярджаюць, што склад Рады па эканамічных справах зацвярджае дэкан дэканата, а ў парафіі дэкана – дыяцэзіяльная Курыя. А Стутут парафіі св. Уладзіслава ў Віцебску наогул не мае тэрміна "дэкан". Пункт 1025 Стутатаў дыяцэзіі акрэслівае, што тэрмін паўнамоцтваў Рады па эканамічных справах трывае пяць гадоў, і Рада ствараецца пробашчам, у той час, як Статут парафіі ўстанаўлівае тэрмін паўнамоцтваў толькі на тры гады і патрабуе ствараць Раду парафіі Сходам парафіі – г.зн. сходам усіх вернікаў парафіі.

Цікавай адрознасцю ў нарматыўных актах Статутаў дыяцэзіі і Статута парафіі з'яўляецца тое, што Статуты дыяцэзіі наказваюць чальцам Рады складаць пробашчу прысягу з наступным зместам. *"Я (называецца імя і прозвішча), пакліканы і прызначаны чальцом Рады па эканамічных справах нашай парафіі, прысягаю перад Богам і тут прысутнымі, што давераную мне функцыю буду выконваць сумленна згодна з прадпісаннямі касцельнага права. Асабліва прысягаю, што па меры сваіх сіл і з пачуццём адказнасці за Касцёл буду клапаціцца аб цэласнасці і бяспецы парафіяльнай маёмасці ў згодным супрацоўніцтве з кіраўніком нашай парафіі на хвалу Божую і дзеля дабра Касцёла. Няхай дапаможа мне ў гэтым Пан Бог усемагутны. Амэн".*

Важным момантам у пытанні парафіяльнай рады з'яўляецца тэма кіраўніцтва парафіяй. Згодна з Кодэксам кананічнага права, пастырам парафіі і яе кіраўніком з'яўляецца пробашч. Аднак Статуты парафіі ўказваюць на старшыню парафіяльнай рады як на таго, хто кіруе парафіяй. Як тут быць, калі трэба захаваць патрабаванні касцельнага права і не парушаць свецкага? Ідэальным варыянтам ёсць, калі пробашч парафіі абіраецца сходам на пасаду старшыні парафіяльнай рады.

Як было зазначана вышэй, найвышэйшы касцельны заканадаўца пакідае партыкулярнаму праву вырашаць прынцыпы адміністравання і функцыянавання такіх інстытутаў, як парафіяльная рада. Таму падрабязныя адказы варта шукаць менавіта там, уважліва чытаючы сінадальныя статуты, нормы, выдадзеныя дыяцэзіяльным біскупам, і парафіяльны статут, які таксама зацвярджаецца біскупам, рэгіструецца і прызнаецца свецкай уладай.

# Исповедь и сомнения

**Что делать, если я все время сомневаюсь, не совершил ли я грех, и не уверен, что правильно исповедовался?**

**Что делать, когда мы сомневаемся, совершили мы или нет определенный грех?**

Если мы сомневаемся в том, был ли наш поступок грехом, то мы не обязаны говорить о нем на Исповеди. Еще Тридентский собор предписал исповедоваться в грехах, которые мы осознаем (и подразумевается именно уверенность, поскольку осознание означает не мнение, а окончательное суждение). Тем не менее, поскольку ситуация сомнения сама по себе является неясной, верующий призван спрашивать совета о том, допустим или нет тот или иной поступок.

Если же мы сомневаемся, был ли наш грех тяжким или был ли он нами исповедан, то в таком случае, как утверждают многие специалисты по нравственному богословию, необязательно в нем каяться. Вот что пишет об этом святой Фома Аквинский: "Если кто-то сомневается в том, является ли смертным его грех, то он обязан исповедовать его, пока находится в сомнении. Тем не менее он не должен упоминать о том, что его грех – смертный, но излагать в форме сомнения, оставляя это на суд священника". И в любом случае в такой ситуации нужно следовать аксиоме: "Lex dubia non obligat" – "сомнительное право не обязывает". Такого принципа придерживаются многие богословы.

Что касается навязчивых мыслей о неправильности совершенной Исповеди, то нужно постараться не обращать на них внимания (разумеется, после искренней беседы с исповедником). Эти одержимые мысли происходят от лукавого, который не хочет, чтобы мы радовались дарам Господа.

Приведем здесь несколько фрагментов из сочинений святой Екатерины Сиенской, Учителя Церкви: "Итак, не бойтесь, дорогой мой брат, когда вы видите, что дьявол, намереваясь помешать покою и терпению вашего сердца и вашей души, наводит уныние и мрак на вашу душу, вселяя в нее множество фантазий и мыслей. Иногда вам покажется, что тело хочет быть непослушным духу. Или даже дух богохульства захочет осквернить ваше сердце через разные другие борения. Не бойтесь: душа не должна печалиться ни из-за какой борьбы".

И еще: "Смятению, вносимому дьяволом, душа пусть ответит: "Если бы не было во мне Божественной благодати, то не было бы и доброй воли, и я последовала бы за твоими хитростями и за моими извращенными фантазиями. Но я уповаю на Господа Нашего Иисуса Христа, который сохранит меня до последнего мгновения моей жизни".

И еще – замечательные слова святой Екатерины: "И если не можете сделать ничего другого, то по крайней мере встаньте у креста и скажите: "Иисусе, Иисусе"… Утешьтесь в святой и доброй воле и не вникайте в ваши фантазии. Думайте о том, что благость Бога позволяет бесам досаждать душе, чтобы смирить нас и дать признать Его благость, чтобы мы прибегали к Нему и укрывались в Его сладчайших язвах, как дитя прибегает к матери".

А вот учение святой Екатерины Сиенской о том, "Как победить страх плохой Исповеди". Вот что она пишет: "Иногда душа искренне исповедует свои грехи, ничего специально не замалчивая. Но чтобы смутить душу, чтобы она не стяжала с пылкостью сердца плоды исповеди, дьявол хочет внушить ей, что она плохо исповедовала свои грехи, и говорит: "Ты не все сказала; а те, о которых сказала, не описала так, как нужно". И множество других мыслей и смущений посылает он той душе. И если душа не поднимается с рассудительностью и доверием, то она пребывает в теплохладности, внутренней тревоге и во мраке. Она связывает себе руки святого желания и заключает его в узы смятения, как мы уже сказали. Она теряет радость и становится нестерпимой для себя самой. Есть ли средство, чтобы не впасть в отчаяние? Нет иного средства, чем свет веры, который, побуждая ее опомниться, показывает, что она не оставила добровольно и коварно на совести какой-либо яд вины, не извергнув его на Исповеди. Да, пусть она признается, что сказала о своих грехах несовершенным образом, что не представила их во всей серьезности. Но пусть она помнит, что Исповедь должна быть приправлена упованием на Кровь Христову, надеждой на то, что недостающее ей восполнит эта Кровь. Еще одно средство, на которое нужно взирать при свете веры, – это мысль о том, как мы невыразимо возлюблены Богом. Его любовь не презирает свидетельство доброй совести, как не допускает она того, чтобы в душе осталось что-то, Его оскорбляющее. С этой верой, любовью и надеждой человек да погрузится в милосердие Бога. Пусть он оставит всякую мысль о себе, но думает только о милосердии Бога, полученном и постоянно получаемом. И если борьба и назойливость вернется, пусть он отбросит их назад – то из них, что его смущает, –Ці ж не два вераб'і прадаюцца за ас? и держит перед собой то, что смиряет и позволяет лучше познать себя: производя плоды истинной и совершенной надежды и уверенность в том, что страдания и путь креста более угодны Богу, нежели что-либо другое. И так плоды Его Крови будут еще более обильны".

*Радио Ватикана*

## Хвала Хрысту! Паважаны ксёндз Віктар Місевіч!



*З нагоды Дня нараджэння прыміце самыя шчырыя віншаванні!*

*Божага натхнення Вам у душпастырскім служэнні, у рэдакцыйнай працы, у штодзённых справах!*

*Жадаем Вам здароўя, супакою, шчодрых дароў Духа Святога, аптымізму, апекі Маці Божай!*

***Супрацоўнікі рэдакцыі "Каталіцкага Весніка"***

## Хвала Хрысту!



*9 верасня адзначыў імяніны наш паважаны **ксёндз Сяргей Сурыновіч**.*

*Сардэчна жадаем Вам, дарагі ксёндз-пробашч, душэўнага спакою, здароўя, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, Хрыстовай любові! Жадаем Вам апекі Маці Божай, дароў Духа Святога!*

***Удзячныя вернікі:***
***Валерыя Шакель, Ганна Максіменка, Ганна Пяткевіч, сям'я Шпак***
***(Капліца святога Юзафа, аг. Друйск)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*13 кастрычніка – імяніны ў нашага душпастыра **ксяндза Эдварда Ахрамовіча**.*

*Шаноўны ксёндз Эдвард! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай дапамогі ў служэнні касцёлу, апекі Маці Божай і анёла ахоўніка.*

***З павагай і малітвай, вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля (аг. Опса)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*29 верасня **ксёндз Славамір Самковіч** адзначае Дзень нараджэння. Мы шчыра віншуем яго, жадаем моцнага здароўя, душэўнага спакою, радасці, апекі Маці Божай! Няхай Пан Бог і надалей благаслаўляе яго і дапамагае ва ўсіх справах!*

***З любоўю і ўдзячнасцю, вернікі капліцы Маці Божай Будслаўскай (в. Кардон, Шумілінскі раён)***

## Паважаны ксёндз Славамір Самковіч!

*Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды Вашага Дня нараджэння!*

*Мы дзякуем Вам за Вашае адданае служэнне Касцёлу, за тлумачэнне Божага Слова, за мудрыя і павучальныя казанні, якія кранаюць нашыя сэрцы і пакідаюць цудоўны след у нашых душах. Дзякуем таксама Вам за жаданне дапамагчы людзям знайсці дарогу да Пана Бога, каб усе мы жылі адной дружнай сям'ёй з Панам Богам.*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, сіл і цярпення, душэўнага спакою і добрага настрою! Божай падтрымкі Вам ва ўсіх справах, шчырых вернікаў на Вашым шляху!*

*Няхай Усемагутны Божа Вас ніколі не пакідае, Маці Божая хай ахіне Вас сваёй апекай на доўгія гады святарскага служэння людзям і Богу!*

***Вернікі парафіі Божай Міласэрнасці (аг. Пагошча, Браслаўскі раён)***

## Хвала Хрысту! Паважаны наш ксёндз Антоній!




*Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння (4 верасня)!*

*Мы Вас вельмі любім і дзякуем Пану Богу, што Вы з'явіліся ў жыцці кожнага з нас. Дзякуем Вам, ксёндз Антоній, за Вашу дабрыню і любоў да нас, парафіян! Дарога святара вельмі цяжкая. Дай Вам Бог здароўя і цярпення на доўгія гады, пастырскай мудрасці, сілы!*

***Ад усіх вернікаў парафіі св. Язафата Кунцэвіча ў в. Канстанцінава – Часлава Вышадка***

## Хвала Хрысту!



*Сардэчна віншуем з нагоды імянін нашага паважанага пробашча **ксяндза Станіслава Мжыглуда**!*

*Дасылаем віншаванні і самыя шчырыя пажаданні. Ад шчырага сэрца жадаем Вам, дарагі ойча, поспеху на няпростым шляху Божага паклікання, дапамогі Пана Бога і апекі маці Божай. Няхай заўсёды будуць у Вас моцнае здароўе і добры настрой!*

***Усемагутны хай Вам дапаможа,***
***У малітве і працы трываць!***
***І крыніцу жыцця – Слова Божае –***
***Годна свету ўсяму абвяшчаць.***
***Хай жа поўняцца светлаю радасцю,***
***Кожны дзень Ваш і кожны час!***
***Пад апекаю Божай Маці***
***Жыць заўжды сярод людзей, нас!***

***Вернікі санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе***

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем нашага паважанага **ксяндза Алега Мурзіча** з круглай датай – саракапяцігоддзем (19 верасня)!*

*Жадаем шчодрага творчага плёну і Божага благаслаўлення, каб у Вашым сэрцы на ўсіх хапала любові, а Дух Святы натхняў Вас ва ўсіх Вашых добрых пачынаннях і ў нястомным клопаце пра дзяцей Божых! Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за ўсе малітвы, за цікавыя і мудрыя казанні, а Маці Божая хай нястомна моліцца за Вас перад Божым тронам і прытуляе да свайго сэрца з мацярынскай любоўю!*

*Нізкі паклон Вам і наша вялікая пашана і ўдзячнасць за сумесныя малітвы, за дабрыню, за разуменне і цярплівасць, за цяпло і ўтульнасць нашага касцёла, за тое, што з усімі хваробамі і болем душы мы спяшаемся пад яго светлы дах, каб ажывіць сваю душу.*

*Цешымся з Вашай святарскай паслугі!*

***

*Таксама дасылаем сардэчныя віншаванні з Днём нараджэння (29 верасня) маме нашага паважанага святара, шаноўнай **Яніне Эдуардаўне Мурзіч**.*

*Восень – самая шчодрая і багатая пара года. Восень чалавечага жыцця таксама багатая, багатая пражытымі гадамі, набытай мудрасцю і жыццёвым вопытам.*

*Паважаная Яніна Эдуардаўна! Менавіта цяпер такая восеньская пара прыйшла і ў Ваша жыццё. І колькі б гадоў гэтай жыццёвай восені не падарыў Вам Бог і не адмерыў лёс, няхай восень Вашага жыцця будзе толькі залатой! Прымайце сваю залатую восень такой, якой яна ёсць, цаніце кожны пражыты дзень, якім бы ён ні быў, бо гэта незваротнае і бясцэннае імгненне Вашага жыцця. Давярцеся Божай міласэрнасці і дзякуйце, шчыра дзякуйце Богу, бо ўсё ў жыцці з Божай ласкі.*

*"... І сёння хочам пажадаць: здароўя, сонца, Божае спагады. Заўсёды Вас мы будзем паважаць!..."*

***З павагай і дарам малітвы ў сэрцы, удзячныя вернікі парафіі Маці Божай Унебаўзятай (в. Канстанцінава, Мядзельскі дэканат)***

## Хвала Хрысту! Шаноўны ксёндз Альфрэд!



*Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння! Прыміце ад сваёй паствы шчырыя словы павагі і любові, словы ўдзячнасці за ўсё, што Вы, нястомны працаўнік, робіце дзеля нашай парафіі і для нашага касцёла, які стаў прыгожым і ўтульным. Сюды мы прыходзім, каб палячыць свае збалелыя душы, па раду і дапамогу. Вы той добры пастыр, які вядзе сваіх авечак дарогай да Пана Бога. Вы дапамагаеце ўсім і кожнаму паасобку несці свой крыж і сваім прыкладам, сардэчнасцю і адкрытасцю ўмацоўваеце нашу веру. Прабачце нам, калі мы іншым разам непаслухмяныя і засмучаем Вас.*

*Дарагі наш Пробашч! Дзякуем Вам за змястоўныя, зразумелыя казанні, у якіх мы знаходзім адказы на нашыя пытанні. Дзякуем за адданае служэнне Богу і людзям, за цяпло Вашага сэрца, за шчырасць і мудрасць, за разуменне нашых праблем. Ваш дар робіць шчаслівым кожнага чалавека, які хоць раз пагутарыў з Вамі. Вашая лагодная ўсмешка і сардэчнасць запамінаюцца назаўсёды.*

*Няхай добры Божа адорыць вас моцным здароўем, благаслаўляе Вашыя справы! Жадаем Вам душэўнага супакою, апекі Маці Божай і ўсіх дароў Духа святога! Нізкі паклон Вашай маме, якая стаяла ля вытокаў Вашага выбару стаць святаром і аддала свайго сына на службу Богу і людзям.*

***З віншаваннем і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

## Хвала Хрысту!

*Віншуем нашых дарагіх святароў: **айца Тадэвуша Кавальскага OFMCap** з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння (19 верасня), **айца Максіма Варанюка OFMCap** – з Днём нараджэння (7 верасня), а **сястру Надзею Рачыцкую** з Кангрэгацыі сясцёр-адаратарак Крыві Хрыста – з нагоды складання вечных манаскіх абяцанняў!*



***Шаноўны айцец Тадэвуш!** Жадаем, каб міласэрны Бог адарыў Вас патрэбнымі ласкамі, даў сілы трываць у Яго любові, а Маці Божая заўсёды і ўсюды апекавалася Вамі!*



***Паважаны айцец Максім!** Вы толькі ў пачатку Вашага служэння. Няхай Пан Бог благаслаўляе на нялёгкім святарскім шляху, няхай сутана ніколі не здасца занадта цяжкай, а Ваша пастырская мудрасць, сіла і цярпенне прыгорне да Бога людзей, з якімі давядзецца сустрэцца ў жыцці! Няхай Маці Божая Нястомнай Дапамогі агорне Вас сваёй апекай і ласкай!*

***Любая сястра Надзея!** Няхай жыццё, прысвечанае Хрысту, пройдзе пад апекай і заступніцтвам Маці Божай! Жадаем усіх Божых ласкаў, дароў Духа святога, натхнення, цярплівасці!*

*Дзякуем Пану Богу за тое, што ўсе Вы ёсць у нашым жыцці!*

***З павагай, вернікі з капліцкі Езуса Міласэрнага (в. Гняздзілава, Докшыцкі раён)***

**Адказы на тэст са старонкі 9:**
1. А; 2. В; 3. В; 4. Б; 5. В; 6. Б; 7. В; 8. В.

## Хвала Хрысту!



*З сардэчнай цеплынёй і малітоўнай памяццю віншуем **ксяндза Вячаслава Пялінка**, які 28 верасня адзначае імяніны!*

*Мы ўдзячныя Пану Богу за гэтага святара, бо ён заўсёды разумеў і падтрымліваў нас. Мы заўсёды памятаем пра Вас, ксёндз Вячаслаў, у сваіх малітвах. Ад усяго сэрца жадаем Вам жыццёвай разважлівасці, Божай ласкі на кожны дзень, моцнага здароўя на доўгія гады, шмат сіл і цярпення, вытрымкі ў душпастырскай працы, здзяйснення ўсіх мараў!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Сардэчна віншуем паважанага **ксяндза Вячаслава Пялінка** з нагоды імянінаў (28 верасня)! Жадаем добрага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, добрых і зычлівых людзей побач. Нізкі паклон Вам за шчырую малітву, за словы навукі, за тлумачэнне Святога Пісання і за павагу да кожнага чалавека!*

***З удзячнасцю, вернікі парафіі св. Андрэя Баболі (Полацк)***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

**5 кастрычніка – імяніны ў сястры Фаўстыны, якая з'яўляецца апякункай (гаспадыняй) “Дома Міласэрнасці” ў аг. Каменка, дзе жыве каля дзевяноста чалавек. Тут знаходзяць прытулак людзі рознага веравызнання і рознай нацыянальнай прыналежнасці.**

Сястра Фаўстына – неардынарная асоба: маладая, адукаваная, таленавітая. Пра яе можна сказаць: “і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц”. Яна і арганістка, і катэхетка, а яшчэ спрытна кіруе ўсімі відамі транспарту. Сястра аддае ўсе свае сілы на служэнне Богу і людзям.

А 23-й гадзіне сястра Фаўстына яшчэ ў “Доме Міласэрнасці”, а пятай ужо бяжыць даіць карову, сама корміць свіней і курэй, каб да нашага стала былі свежыя прадукты. Апрацоўвае зямельны надзел, абкошвае тэрыторыю, падстрыгае падапечных, голіць мужчын. За якую справу ні возьмецца, усё ў яе выходзіць спрытна.

Жывём мы ў светлых, утульных пакоях. У кожным пакоі ёсць тэлевізар. У капліцы раз на тыдзень ксёндз Андрэй адпраўляе святую Імшу. На мясцовых могілках пахаваны сёстры з Кангрэгацыі і адзінокія падапечныя. Кожную нядзелю сястра Фаўстына наведвае добраўпарадкаваныя могілкі, каб памаліцца за памерлых.

Арэлі, лаўкі, альтанка, дзе можна пасядзець, пагутарыць, падыхаць свежым паветрам, паспяваць марыйныя песні. Кветкі ўпрыгожваюць наша жыццё.

Закончана рэканструкцыя будынка былой сталовай. Хутка там паселіцца яшчэ пару дзясяткаў падапечных.

З пачуццём глыбокай павагі віншуем Вас, дарагая сястра Фаўстына, з днём імянінаў! Жадаем Вам моцнага здароўя, хрысціянскай радасці, аптымізму, цярплівасці і вытрымкі, аўтастрады, якая вядзе да неба! Мы ўдзячныя Вам за вялікае сэрца, за пачуццё гумару. Няхай Міласэрны Бог адудзячыць Вам за ўсе Вашы добрыя справы!

Сардэчна дзякуем маме сястры Фаўстыны, шаноўнай Юзэфе Браніславаўне Цыдзік, якая нарадзіла і выхавала двух сыноў і дачку.

Паважаная Юзэфа Браніславаўна! Няхай моцным будзе Ваша здароўе, няхай Анёл-Ахоўнік аберагае Вас ад бедаў, дадае сіл і жыццёвай мудрасці! Шчасці Вам, Божа!

***Падапечныя з “Дома Міласэрнасці” ў аг. Каменка (Шчучынскі дэканат, Гродзенская дыяцэзія)***

# Можно ли простому католику читать Библию?

**Можно ли простому католику читать Библию? И где найти толкование не совсем понятных текстов?**

Один человек спросил однажды мудреца: “Зачем ты постоянно читаешь книги, в которых содержится учение о божестве и обязанностях человека? Ведь ты уже несколько раз читал их?” Мудрец, в свою очередь, спросил его: “Зачем ты ныне требуешь пищи себе? Ведь ты вчера ел?” “Я делаю это для того, чтобы жить”, – отвечал спрашивающий. “И я читаю, для того, чтобы жить”, – сказал мудрец. Как для жизни тела ежедневно требуется пища вещественная, так и для души ежедневно нужна пища духовная.

Катехизис Католической Церкви говорит нам: “Священное Писание есть Слово Божие, поскольку по вдохновению Духа Святого оно запечатлено в письменной форме” (ККЦ 81). Каждый раз, читая Святое Евангелие, мы слышим обращенные к нам слова Самого Христа. Нам следует воспринимать чтение Священного Писания как прямой личный разговор с Богом.

Сегодня каждый человек может приобрести Библию, открыть ее и начать читать. Что же нужно для того, чтобы это чтение привело к положительному результату, стало спасительным? И можно ли читать Библию так, как читают обычную книгу? Чтобы ответить на этот вопрос, обратимся к догматической конституции о Божественном откровении “Dei Verbum”, которая говорит, что “Священное Писание надлежит читать и толковать с помощью того же Духа, под воздействием Которого оно было написано. Для верного выяснения смысла священных текстов нужно не менее усердно обращать внимание на содержание и единство всего Писания, учитывая живое Предание всей Церкви и согласие веры” (DV 12).

Именно Церковь говорит нам, что есть Священное Писание, и именно Церковь объясняет нам, как должно Его понимать. Встретившись с эфиоплянином, читавшим Ветхий Завет на своей колеснице, Филипп спросил: “Разумеешь ли, что читаешь?” И эфиоплянин ответил: “Как могу разуметь, если кто не наставит меня?” (Деян 8,30-31). Все мы находимся в состоянии этого эфиоплянина. Слова Священного Писания не всегда понятны без объяснения. Когда мы читаем Библию, Бог обращается прямо к сердцу каждого из нас: чтение Священного Писания – это личный разговор с Христом. Но мы также нуждаемся в руководстве. Наша путеводительница – это Матерь-Церковь. Мы полностью используем собственный разум при содействии благодати Святого Духа; в полной мере используем открытия современных исследователей Библии, но всегда подчиняем частное мнение – свое ли собственное или мнение ученых – многовековому опыту Святой Вселенской Церкви. II Ватиканский собор указывает три критерия для толкования Писания в соответствии с Духом, вдохновившим его:

1. Прежде всего обращать большое внимание “на содержание и единство всего Писания”. Ибо, как ни разнообразны книги, в него входящие, Писание едино в силу единства Замысла Божия, центром и сердцем которого – открытым со времени Своей Пасхи – является Христос.

Сердце Христово знаменует Священное Писание, а оно позволяет познать сердце Христово. Это сердце было закрыто до Страстей нашего Господа, ибо Писание было неясно. Но после Страстей Писание открылось, ибо те, кто отныне разумеет его, знают и отличают, как надо толковать пророчества.

2. Затем: читать Писание в “живом предании всей Церкви”. Отцы Церкви говорили, что точнее Священное Писание читается в сердце Церкви, нежели в вещественных средствах письма (т.е. на бумаге). Действительно, Церковь несет в своем Предании живую память Слова Божия. Это Святой Дух дает ей духовное толкование Писания (“...согласно духовному разумению, которое Дух дарует Церкви”).

3. Быть внимательными к “аналогии веры”. Под “аналогией веры” мы понимаем связь истин веры между собой и в общем замысле Откровения (ККЦ 111-114).

И напоследок хотелось бы сказать немного о том, какой перевод Священного Писания является “более правильным”. К сожалению, на русском языке нет перевода Библии, который был бы официально утвержден Католической Церковью. Но в целом Католическая Церковь, вместе с православными и большинством других христианских конфессий, пользуются Синодальным переводом Библии. Синодальный перевод с католическими комментариями, известный как “Брюссельская Библия”, был выпущен издательством “Жизнь с Богом” в 1989 году, переиздан Российским Библейским обществом в 2006 году и доступен в продаже под названием “Библия с комментариями” (Москва, РБО, 2006).

*Радио Ватикана*



## Хвала Хрысту! Прыміце падзяку!

Мы, удзельнікі марыянскай пілігрымкі Друя – Росіца, шчыра дзякуем адказнаму за пілігрымку а. Канстанціну Анашку, клерыкам, сёстрам за тое, што яны зладзілі такую вельмі важную малітоўную імпрэзу! Мы слухалі канферэнцыі, надзвычай цікавым для нас быў аповед пра святых і благаслаўлёных, пра святароў, адданых Пану Богу і Каталіцкаму Касцёлу.

Вялікі дзякуй жыхарам Мёраў, Верхнядзвінска, якія гасцінна прымалі пілігрымаў на адпачынак. У цудоўнай малітоўнай атмасферы мы дакрочылі да благаслаўлёных Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча. А ў працяг пілігрымкі – Святая Імша, працэсія са свечкамі на пляцы мучаніцтва.

***Пілігрымы з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі***

## 7 антыстрэс-цытат з Бібліі

### Цытаты са Святога Пісання, якія варта перачытваць у моманты сумневаў ці стрэсаў

1. ***Не клапаціцеся пра заўтрашні дзень, бо заўтра само за сябе паклапоціцца. Хопіць кожнаму дню свайго клопату*** *(Мц 6,34).*

2. ***Тыя, што спадзяюцца на Госпада, абнаўляюцца ў сіле: падымуць крылы, як арлы, пацякуць і не стомяцца, пойдуць і не стомяцца*** *(Іс 40,31).*

3. ***Але Пан сказаў ёй у адказ: “Марта, Марта, ты турбуешся і клапоцішся пра многае, а патрэбна толькі адно. Марыя ж выбрала найлепшую частку, якая не адымецца ў яе”*** *(Лк 10, 41-42).*

4. ***Калі кладуся, спакойна засынаю, бо толькі Ты, Пане, дазваляеш мне жыць бяспечна*** *(Пс 4,9).*

5. ***Ці ж не два вераб'і прадаюцца за ас*? І ніводзін з іх не ўпадзе на зямлю без волі Айца вашага. У вас жа і валасы на галаве палічаны. Таму не бойцеся: вы вартыя больш за мноства вераб'ёў*** *(Мц 10, 29-31).*

6. ***Усялякі свой клопат ускладзіце на Яго, бо Ён клапоціцца пра вас*** *(1 П 5,7).*

7. ***Выбавіць душу маю ў спакоі ад тых, хто на мяне паўстае, бо іх многа ў мяне*** *(Пс 55,19).*

*Паводле credo.pro*

* – старажытнарымская манета.

# Пытанне святару: што такое “кантэмпляцыя”?



*“Што такое “кантэмпляцыя”? Ці можа яе практыкаваць звычайны вернік? Ці гэтая практыка даступная толькі святым?”*
Ірына

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Дзякую за пытанне! Пытанне цікавае ўжо тым, што сам лацінскі тэрмін *contemplatio (бел. сузіранне, угляданне)* стварае вакол сябе нейкую таямнічую аўру, быццам гэта штосьці недасягальнае для звычайнага чалавека.

Лацінскае паняцце адносілася перш за ўсё да назірання за лётам птушак, каб прачытаць у ім прамінанне лёсу чалавека. У пісьмах Цыцэрона (106-43 г. да н.э.) выраз *contemplatio* мае значэнне ўважлівага погляду, а ў пазнейшых лацінскіх аўтараў (II-VI ст. н.э.) гэты тэрмін азначае “разважанне, увагу, угляданне”.

У лацінскім (заходнім) хрысціянстве кантэмпляцыя з’яўляецца адным са спосабаў мысленнай малітвы, які пададзены ў “Духоўных практыкаваннях” св. Ігнацыя Лаёлы. Такім чынам, кантэмпляцыя – гэта ўважлівае сузіранне таямніцаў Хрыста з дапамогаю ўяўлення, думак і пачуццяў.

Калі мы чытаем айцоў Касцёла, то яны кажуць пра практыку, ласку ці стан. Гэта перш за ўсё малітва сэрца. Кантэмпляцыя адрозніваецца ад медытацыі. Хрысціянская медытацыя – гэта разважанне, і не азначае, што я ўжо ўвахо旦джу ў стан кантэмпляцыі.

Кантэмпляцыя з’яўляецца духоўнай малітвай, Божай ласкай і вяршыняй усяго. Гэта таямнічае пазнанне Бога, а не нейкая тэхніка, якую чалавек можа выпрацаваць самастойна. У кантэмпляцыі Бог пераймае ініцыятыву і Сам Сябе дае пазнаць чалавеку.

Актыўнасць чалавека падчас кантэмпляцыі можна параўнаць з чалавекам, які знаходзіцца пад уздзеяннем промняў сонца. Каб адчуць сонечнае цяпло, чалавек павінен адкрыць свой твар і скіраваць яго на сонца. Такім чынам, той, хто жадае перажыць кантэмпляцыю, павінен адкрыць сваё сэрца, аддаць сваю волю Богу і прысвяціць час на малітву. Прасторай кантэмпляцыі з’яўляецца вера, якая ёсць мерай нашай малітвы. Гэта перадусім сфера духу. Каб увайсці ў найглыбейшы кантакт з Богам, мы, хрысціяне, павінны клапаціцца пра нашу веру.

Памятайма, што мы самі не можам увайсці ў кантэмпляцыю, бо наша вера павінна быць пакорнай, а пакора будуецца на Божай ласцы. Кантэмпляцыя не з’яляецца чымсьці, што мы заслужылі. Гэта ласка! Даварайма Богу ў пакоры свайго сэрца, а іншае трэба пакінуць Пану Богу, бо Ён найлепш ведае, у чым мы маем патрэбу. Ён больш нас любіць, чым мы самі сябе.

Ці можа яе практыкаваць звычайны вернік, ці гэтая практыка даступная толькі святым? Можа! Адкрыйце сваё сэрца, аддайце сваю волю Богу, прысвяціце час на малітву, а іншае Ён Сам дасць!

Беражы Вас Бог!

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**30 верасня 2018 г.**
***Мк 9, 38 – 43,45,47***

Вучнем Езуса можа быць той, хто ў Яго верыць. Езус – цэнтр веры. Вера – гэта прызнанне Езуса Панам. Вера праяўляецца таксама і ў тым, што мы пазбягаем усяго, што вядзе да грэху. Трэба сачыць, каб сваімі паводзінамі мы не адцягвалі ад веры і жыцця, згоднага з Божым законам, людзей, якія яшчэ не ўмацаваліся ў веры. Каб пераадолець спакусы, што адцягваюць нас ад добрага, патрэбна рашучасць. Найперш неабходна знайсці сапраўдную прычыну нашага грэху, карыстаючыся падказкай святара ў спавядзіцы. А потым рашуча “адсекчы”, разарваць свае адносіны з гэтай прычынай і паступова ісці дарогай выпраўлення.

*– Ці памятаю я, што Езус галоўны ў нашай веры?*

*– Ці не перашкаджаюць мае звычкі, традыцыі і іншыя справы сустракацца з Езусам?*

*– Ці не засяроджваюся празмерна на няважным, забываючыся пра Езуса?*

*– Ці памятаю, што Ён Пан?*

*– Ці не адцягваю я людзей ад веры ў Бога?*

*– Ці не быў я дрэнным сведкам веры праз свае ўчынкі?*

*– Ці не нараджаў я сваімі выказваннямі сумненні ў сэрцах людзей з неўмацаванай верай?*

*– Як я паводжу сябе, што кажу пра веру ў прысутнасці сваіх дзяцей?*

*– Ці дапамагаю ва ўмацаванні веры слабым, тым, хто толькі распачынае сваю дарогу духоўнага жыцця?*

*– Ці шукаў я адказаў на сумненні, якія ўзнікалі ў мяне?*

*– Ці дапамагаў іншым разабрацца з іх духоўнымі сумненнямі?*

*– Ці змагаюся са спакусамі?*

*– Ці разумею, што мой грэх мае сваю прычыну і свой пачатак?*

*– Ці праяўляецца маё рашэнне ісці за Езусам у тым, каб пазбегнуць усяго, што прыводзіць да грэху?*

*– Ці рашуча я іду за Езусам?*

*– А можа, не бяру адказнасці за сваё жыццё і жыву “як набяжыць”?*

**7 кастрычніка 2018 г.**
***Мк 10, 2-16***

Навука Езуса пра сужэнства адназначная. У шлюбе людзі яднаюцца адно з адным і становяцца адным целам. Гэтая еднасць паміж імі ўмацаваная Божай ласкай. Таму такі саюз сур’ёзны і аж да смерці. Канешне, час ад часу ўзнікаюць пытанні: ці не было паміж нарачонымі якогасьці падману? Або ці не быў хтосьці з іх не гатовы прыняць на сябе сужэнскія абавязкі? Напрыклад, па прычыне хваробы, алкагалізму і г.д. Або падставай была эмацыянальная несасрэласць. У любым выпадку, калі ўзнікаюць такія або падобныя пытанні, трэба звярнуцца да Касцёла, каб біскуп прызнаў шлюб несапраўдным. Такім чынам Касцёл абараняе сапраўднае сужэнства. Бывае паміж сужэнцамі ўзнікае нянавісць, якая прыводзіць да гвалту. Трэба пракансультавацца са сваім спаведнікам, што рабіць, каб не падвяргаць сваё жыццё небяспецы. У справах веры трэба быць адкрытым, як дзіця, на Божую ласку. Трэба з даверам аддавацца ў Божыя рукі і ісці за Яго воляй. Ён вядзе нас разам са святым Касцёлам.

*– Ці цаню я сваё сужэнства?*

*– Ці не разбураю свайго сужэнства праз безадказныя паводзіны?*

*– Ці клапачуся пра свайго сужэнца, сваю сужонку?*

*– Ці не разбураю іншых сужэнстваў праз грэх чужалоства?*

*– Ці шукаю падтрымкі Касцёла ў цяжкасцях і праблемах сужэнства?*

*– Ці паддаюся Божаму кіраванню ў нашым сужэнстве?*

*– Ці даўяраю святому Касцёлу і яго аўтарытэту?*

*– Ці спавядаюся паводле сужэнскіх грахоў?*

*– Ці разумею, што наша сужэнская любоў – гэта таксама духоўная справа, якая дабытчыць супольнасці Касцёла?*

*– Ці не пазбягаю вырашэння цяжкіх сужэнскіх пытанняў, думаючы, што яны вырашацца самі сабой?*

**14 кастрычніка 2018 г.**
***Мк 10, 17-30***

Чалавек, які хоча ісці за Езусам і атрымаць вечнае жыццё, павінен крочыць дарогай любові. Любоў – гэта захаванне Божых запаведзяў, Божага закону любові. Гэта гатоўнасць адмовіцца ад таго, што для мяне добра, каштоўна ці прыемна, калі гэтага патрабуе любоў да Хрыста ці да бліжняга. Для любові варта ахвяраваць шмат чым. Адным з найбольш частых ахвяраванняў з’яўляецца адказ ад багацця. Багацце – гэта вялікі цяжар, і не ўсе гатовы дзеля любові адмовіцца ад яго. У гэтым і палягае вялікая небяспека багацця.

*– Я веру?*

*– Ці ўмею я добра і адказна карыстацца матэрыяльнымі сродкамі?*

*– Ці не абагаўляю матэрыяльныя каштоўнасці?*

*– Можа, не маючы добрай маёмасці, я стаў залежным ад здабывання яе?*

*– Ці не здабываю я маёмасць, не гледзячы на Божыя законы?*

*– Ці не крыўджу іншых, каб больш зарабіць?*

*– Ці не занядбоўваю Бога і бліжніх праз грошы?*

*– Ці не перашкаджаюць мне грошы ісці за Богам?*

*– Можа, праз прывязанасць да матэрыяльных каштоўнасцяў я не здольны ісці за Божымі натхненнямі?*

*– Ці выкарыстоўваю матэрыяльныя каштоўнасці для дабра?*

*– Ці дапамагаю ўбогім?*

*– Ці ахвярны я?*

*– Ці цаню і ці паважаю бяднейшых за сябе?*

**21 кастрычніка 2018 г.**
***Мк 10, 35-45***

Кожны, хто ішоў за Езусам, меў сваё ўяўленне пра тое, што Езус рабіў і чаму вучыў. Той факт, што яны з’яўляюцца вучнямі Хрыста, прымушае іх мяняць свой светапогляд. Сёння чарговы раз мы маем справу з такім выпадкам. Якуб і Ян хацелі стаць удзельнікамі славы Хрыста, каторая, як яны зразумелі, набліжалася. Бачачы рашучасць Хрыста, яны адчувалі, што сітуацыя абвастраецца, і пачалі ўяўляць сабе будучыню згодна з маштабамі іх чалавечага розуму. Такія паводзіны сталі прычынай непаразуменняў з іншымі вучнямі, якія пачалі патрабаваць сваіх правоў. Езус тлумачыць ім, што будучыня – гэта новая, не сустраканая раней рэчаіснасць. Ён возьме на сябе грахі ўсіх людзей, каб за іх заплаціць. Бо Яго валадаранне – гэта валадаранне любові. Моцай гэтага валадарання ёсць любоў, якая праяўляецца не ва ўзвышэнні над іншымі, а ў служэнні. Сам Ён – дасканалы прыклад такога служэння.

*– Якія мае жаданні?*

*– Чаго хачу для сябе?*

*– Якія справы мяне клапоцяць?*

*– Якое месца падрыхтаваў для мяне Бог у гэтым свеце?*

*– Ці добра распазнаю Божую волю адносна сябе?*

*– Можа, я затрымаўся ў працэсе распазнавання Божай волі? Крыху распазнаў, а астатняе хачу рабіць пасвойму?*

*– Ці разумею, што Божае пакліканне часта праяўляецца як адчуванне чагосьці прывабнага і жаданага, але заўсёды трэба ўважліва сачыць, каб гэта не было нашым разуменнем і пачуццямі, на якіх можа сыграць шатан?*

*– Бывае, што натхненне Святога Духа – гэта жаданне чагосьці большага і лепшага, чым ёсць цяпер. Ці маю такі вопыт?*

*– Ці маю духоўніка, з якім разважаю, чаго Бог ад мяне хоча?*

*– Ці разумею, што Бог вядзе мяне па прыступках развіцця і што мне трэба адмовіцца ад свайго ўяўлення, каб бачыць глыбей?*

*– Ці Божае валадарства, у якім я ўдзельнічаю, гэта валадарства любові?*

*– Ці часта я карыстаюся такім сродкам, як служэнне?*

*– Ці вучуся ад Езуса любіць?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк,***
*Віцебск*

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

## Як выглядае Папа?

Ці ведаеш ты, як выглядае Папа? Сярод розных строяў вы- беры, калі ласка, той, які носіць Папа.



## Злучы і размалюй

Ці ведаеш ты, дарагі дружа, на якім транспарце ездзіць Папа? Калі правільна злучыш усе кропкі, то даведаешся як выглядае ПАПАМАБІЛЬ




## Малітва за Папу

Дарагі сябра, Папа Рымскі вельмі шмат моліцца за ўсіх людзей у свеце, за супакой і еднасць паміж народамі. Шмат часу ён прысвячае, каб несці зерне любові і надзеі ўсяму чалавецтву. Ён вельмі патрабуе нашай з табой малітвы за яго! Памаліся, калі ласка, разам з бацькамі гэтай малітвай за Папу Рымскага Францішка:



**Добры Божа,** дзякую табе за тое, што ты паставіў галавою Касцёла Папу Францішка. Атуляй Святога Айца сваёй ласкаю і бласлаўленнем. Адары патрэбнымі для выконвання яго служэння сіламі і ласкамі, будзь для яго радасцю ў цяжкасцях, учыні так, каб яго апостальская праца прынесла як мага больш плёну, дапамагай яму і сцеражы яго. **Амэн.**

## Дапамажы Папу знайсці дарогу ў Беларусь

Папа Францішак жыве далёка ад нашай краіны, але вельмі хоча да нас прыехаць. Дапамажы Папу знайсці дарогу ў Беларусь.



## Знайдзі адрозненні

Папа шмат вандруе. Ён любіць прыязджаць у розныя краіны свету і размаўляць з дзецьмі пра Езуса. Паглядзі, з якімі дзецьмі размаўляў Папа ў гэтай вандроўцы. Ці знойдзеш ты 10 адрозненняў на малюнках?



## Святы апостал Пётр



**Святы апостал Пётр** – гэта першы Рымскі Папа ў гісторыі хрысціянства. Ад нараджэння яго імя было Сымон, нарадзіўся ён ў галілейскім горадзе Бэтсаідзе, быў жанаты і жыў у Капэрнауме. Ён і яго брат Андрэй былі рыбакамі. Аднойчы, калі Сымон лавіў рыбу, ён сустрэў Езуса Хрыста, які паклікаў ісці за сабою, каб зрабіць яго «лаўцом людзей». Сымон атрымаў ад Езуса імя Пётр (Кіфа), што па-габрэйску азначае скала. Ад гэтага моманту Пётр пакінуў сваё старое жыццё, сваю працу, сям'ю і спадарожнічаў Езусу ва ўсіх Яго падарожжах. Каля Цэзарэі Філіпавай ён упершыню назваў Хрыста Сынам Божым, і тады атрымаў ад Езуса абяцанне, што на ім, як на скале, будзе заснаваны Касцёл. Езус таксама даручыў Пятру «пасвіць сваіх авечак». Калі Езуса Хрыста схапілі і асудзілі на смерць, Пётр, спалохаўшыся праследу, тройчы адрокся ад Яго на досвітку. Усвядоміўшы увесь жах свайго ўчынку, ён горка раскайваўся і быў прабачаны. Усё астатняе жыццё Пётр прысвяціў прапаведаванню Божага вучэння, быў схоплены і прыняў пакутніцкую смерць у часы праўлення імператара Нерона ў 64 ці 67 г.. Пётр быў укрыжаваны ўніз галавою. Ён сам папрасіў аб гэтым, бо не лічыў сябе годным памерці гэтаксама, як Хрыстус.

Апостал Пётр на іконах часта намаляваны з двума ключамі. Падставай гэтаму сталі словы Хрыста, звернутыя да апостала: «Дам табе ключы Валадарства Нябеснага: і што звяжаш на зямлі, тое будзе звязана ў нябёсах, і што развяжаш на зямлі, тое будзе развязана на нябёсах» (Мц. 16,19)

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Беларуская Чэнстахова, “сястра Жыровіцаў і Вострае Брамы”: у Бялынічах прайшоў парафіяльны фэст

**9 верасня ў парафіі ў Бялынічах адсвяткавалі ўрачыстасць у гонар Маці Божай Бялыніцкай.**

**кс. Юзаф Сярпейка**, *тэкст;* **Мар'ям Лавал,** *фота* **Catholic.by**

З кожным годам урачыстасці ў Бялынічах збіраюць усё большую колькасць пілігрымаў. Ушанаваць Найсвяцейшую Панну Марыю сёлета сабраліся вернікі з розных мясцін Беларусі: з Бабруйска, Мінска, Асіповічаў, Талачына, Рубяжэвічаў, Дзяржынска, Крывічоў, Ракава, Гродна, Фашчаўкі, Маладзечна, Вілейкі. Асобна ў Бялынічы прыбыла пешая пілігрымка з Магілёва.

Святую Імшу падчас узначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. У сваёй гаміліі іерарх, цытуючы верш паэтэсы Габрыэлі Пузыні, узгадаў гісторыю з'яўлення шмат стагоддзяўтамусвятыніізабраза Маці Божай Бялыніцкай на Магілёўшчыне:

*Што ж там бялее на фоне нябёсаў,*
*Што ззяе ў золаце сонечных косаў?*
*Куды вядзе той гасцінец-дарога?*
*– То да святыні, услаўленай цудам,*
*Ўзнесенай некалі з вераю людам*
*На чэсць Марыі – на хвалу Бога!*
*Ласкаў скарбніца, долі слязніца,*
*Крыло, “пад якое ўцякаем”, таксама*
*Сястра Жыровіцаў, Вострае Брамы,*
*Ясной Гары, што над імі святліца...*

Біскуп прыгадаў росквіт культу цудадзейнага абраза Маці Божай Бялыніцкай і пашаны да Маці Божай, а таксама знішчэнне рукамі нявернікаў святыні ў гэтым месцы.

“Змяняліся пакаленні, але нязменнай засталася матчына апека над нашым краем, – адзначыў іерарх. – Нават тады, калі вецер перамен попелам засыпаў дарогу да касцёла, як Фенікс з попелу, адраджалася вера, паўставала новая святыня. Вера перадавалася дарогай крыві пры нараджэнні і пралітай мучанікамі за веру... Узгаданы намі час – гэта змены і перамены, адыходы і знішчэнні, нараджэнні і сыходы – час таксама новага пакалення. Гэта ваш час, дарагая моладзь, наша надзея, будучыня Касцёла і грамадства, будучыня свету і чалавецтва”, – дадаў іерарх.

Біскуп Юзаф падкрэсліў, што Божая прысутнасць у гісторыях нашага жыцця з'яўляецца жывой крыніцай чалавечай сілы. Божая прысутнасць адчуваецца ў Божым слове і Эўхарыстыі, а нам трэба адчыніць дзверы Хрысту, Які ідзе.

“Ці адкрылі вы ўжо сэрцы на Хрыста? Калі так, то таксама павінны ведаць, што Ён многімі адкідваецца і высмейваецца. Таму, калі ў будаванні дома вашага жыцця вы сустрэнеце тых, якія пагарджаюць Евангеллем, не трацьце ахвоты. Наша вера ў Езуса павінна часта супрацьстаяць нявер'ю іншых, каб загартавацца і стаць нашай верай назаўсёды”.

Напрыканцы гаміліі біскуп звярнуўся да пілігрымаў:

“Няхай Прачыстая Дзева Марыя дасць вам адчуць сэрцам гэтую цудоўную мелодыю прысутнасці Бога, гэтую атмасферу міру і любові. Няхай Марыя паспрые, каб гэтая атмасфера “чароўнай Божай мелодыі” напоўніла цябе, а ты, напоўнены ёю, вяртаўся і Божую любоў перанёс у сваё жыццё і жыццё нашай Беларусі!”




## Ці збіраецеся Вы на сустрэчу з Папам Францішкам у краіны Балтыі?

**Чытачы “Каталіцкага Весніка” выказалі свае меркаванні на гэту тэму.**

**Прапануем Вашай увазе вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках.**



- Так – 105 адказаў;
- не – 72 адказы;
- яшчэ не ведаю – 13 адказаў;
- я чакаю Папу ў Беларусі – 140 адказаў.

**Усяго – 330 апытаных.**

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнства, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, **кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 11.30.** Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: **+ 375 29 78 51 298**

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**

**Catholicnews.by**

# Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:** *363*375295105172*2#
2. **Выатрымаеценасвойтэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:** *363*[код пацвярджэння]#
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты “Каталіцкі Веснік”! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

*Рэдакцыя газеты “Каталіцкі Веснік”*



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 6265

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 2900 экз. Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 27.09.2018 г. у 13.42

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1 Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл. Тэл.: 8(029)736-53-07 e-mail: katalickivesnik@gmail.com http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь